


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

31 студзеня 2020 года №5 (1292) 18+


## Распавядаем пра каранавірус у Кітаі

## Прыгадваем чуму і «іспанку» ў рэгіёне

старонка 5

Фота Настассі УТКІНАЙ, shutterstock.com, калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.

## Уладзіміра Макоўскага пажыццёва дыскваліфікавалі, а ён дагэтуль працуе ў футболе

старонка 22

## Як у маладзечанца Мішу Жабінскага закахаўся адзін вайсковец

старонка 18

## Выпускніца 25-гадовай даўнасці – пра пакаленне 1980-1990

старонка 19




ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# У Маладзечне ўжо стартавала ад тэхнапарка



У брэсцкім тэхнапарку распрацавалі сістэму, якой ужо карыстаюцца ў маладзечанскай станцыі пералівання крыві.

**Праўда, пакуль брэсцкага. Як ідэю стварыць адзіную базу станцый пералівання крыві ўвасабляе невялікая прыватная кампанія? Чаго дасягнуў брэсцкі тэхнапарк за некалькі год працы? Якім чынам поспехі бізнес-ініцыятыў уплываюць на нас?**

Рэгіянальны інавацыйны цэнтр «Тэхнапарк «ІнКата-Мол» стаў пераможцам конкурсу ініцыятыў, накіраваных на развіццё інфраструктуры падтрымкі прадпрымальніцтва. Пераможцамі конкурсу сталі восем ініцыятыў, наш рэгіён прадстаўляе толькі тэхнапарк, які размесціцца ў Маладзечне. Конкурс адбыўся ў межах праекта ЕС-ПРААН «Падтрымка эканамічнага развіцця на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь». Сума фінансавання з боку праекта складае 110 тысяч долараў ЗША. Яшчэ 250 тысяч долараў суфінансуюць партнёры ініцыятывы і арганізацыя заяўнік.

Пра тое, як і калі плануе пачаць працу «Тэхнапарк «ІнКата-Мол», вы можаце пачытаць у мінулым нумары «РГ» або на сайце выдання rh.by.

**Вядома, што да канца 2020 года ў горадзе плануюць паставіць пнеўмакаркасны будынак, у якім і размесціцца тэхнапарк.**

Рэзідэнтамі кампаніі змогуць стаць 6-7 ініцыятыў. Яны распрацуюць інавацыйныя прадукты і атрымаюць дапамогу, каб давесці ідэю да прадукту і вывесці яго на рынак.

Мы вырашылі распавесці пра тое, якіх поспехаў дасягнуў Брэсцкі навукова-тэхналагічны парк. Гэта дапаможа зразумець, чым будзе карысная ініцыятыва ў Маладзечне і чаго чакаць будучым рэзідэнтам.

### Прафесійнае натхненне – заўсёды крок наперад

Каб тэхнапарк мог выконваць функцыі ўстановы, якая спрыяе ініцыятывам і дапамагае на ўсіх этапах працы, самім работнікам трэба пастаянна вучыцца і набываць досвед.

У гэтым найлепш дапамагаюць паездкі да калег. **Ігар Леўчанка** працаваў вядучым спецыялістам па праектнай дзейнасці, калі ўзяў удзел у паездцы па наладжванні сувязяў з літоўскімі тэхнапаркамі.

Паездка адбылася ў 2018 годзе і доўжылася тыдзень. Акрамя Леўчанкі, у ёй удзельнічалі калегі з брэсцкага тэхнапарка. Усе выдаткі пакрыў еўрапейскі праект мабільнасці MOST. Удзельнікі наведалі бізнес-інкубатар у Вільні, а таксама тэхнапаркі Клайпеды і Коўна.

Падчас паездкі пазнаёміліся з ключавымі работнікамі арганізацый, пабачылі рэжым працы. Важным было тое, што ўдзельнікі візіту дамовіліся аб супрацоўніцтве.

Леўчанка распавядае, што мадэлі працы ў кожнай з кампаній былі адрозныя. Важным было параўноўваць, як працуюць літоўскія тэхнапаркі і беларускія. Напрыклад, ільготы для рэзідэнтаў існуюць у Беларусі і замацаваныя ў заканадаўстве. У Літве ж такой асаблівасці няма.

Ігар параўнаў еўрапейскі досвед з тым, што атрымаў падчас паездкі ў ЗША. Там ён пабачыў, як бізнес-інкубатары выгадоўваюць стартапы. Прадстаўнік ініцыятывы дзяліцца ідэяй. Калі, па меркаванні прадстаўніка інкубатара, яна спадабаецца рынку, яны пачынаюць укладвацца ў стартап. Бізнес-інкубатар дае венчурнае фінансаванне, якое няпроста знайсці з іншых крыніц. Калі стартап запрацаваў, то прыносіць інкубатару дывідэнды.

Партнёры з Еўрапейскага саюза неабходныя для некаторых праектаў, якія фінансуе ЕС. Праграма MOST – лепшы варыянт пазнаёміцца з калегамі, з якімі можна працягваць партнёрства, кажа Ігар.

Леўчанка адпрацаваў у брэсцкім тэхнапарку 3,5 года. За гэты час упэўніўся, што рэзідэнты атрымліваюць рэальную і неабходную падтрымку. Для многіх важныя падатковыя льготы.

**– Калі ідэя перспектыўная, рэзідэнту дапамагаюць і абсталяваннем, і памяшканнем. Канешне, тэхнапарк стварае спрыяльныя ўмовы для бізнесу, – падсумоўвае Леўчанка.**

– Беларусь – IT-краіна, таму нам, як нікому, важна ўкараняць распрацоўкі праграмістаў ва ўсе сферы. Тэхнапаркі ў гэтым вельмі дапамагаюць. А абмен досведам з калегамі заўсёды пашырае кругагляд, каб прынесці нейкія паляпшэнні ў сваю працу. У такіх візітах да калег атрымліваеш прафесійнае натхненне, а гэта заўсёды крок наперад.

### Дапамагаем з тым, што найбольш трэба

Пра тое, чаго дасягнуў Брэсцкі навукова-тэхналагічны парк, мы папрасілі распавесці дырэктара ўстановы **Дзмітрыя Макарука**.

Тэхнапарк у Брэсце запусцілі ў 2015 годзе. За гэты час кампанія стала лідарам інавацыйнай структуры Брэстчыны і галоўным бізнес-інкубатарам вобласці.

Арганізацыя дае рэзідэнтам каштоўныя прапановы для развіцця бізнесу. Яны могуць атрымаць кансультацыі па розных пытаннях – юрыдычных, маркетынгавых. Могуць арандаваць памяшканне і набыць абсталяванне, што значна памяншае расходы.

Для рэзідэнтаў тэхнапарка стаўка падатку пры спрошчанай сістэме падаткаабкладання складае 0%, стаўка падатку на прыбытак – 10%.

# распрацоўка




Фота bn.by

Брэсцкі навукова-тэхналагічны парк працуе ад 2015 года.

За час працы ўстанова прыняла 61 рэзідэнта. Усе яны прыйшлі з інавацыйнымі ідэямі, якія з дапамогай тэхнапарка ідуць да рынку.

Адной з распрацовак стала алгарытмізацыя разліку паслуг ЖКГ. Сістэма дазваляе скараціць колькасць работнікаў, якія абслугоўваюць разлік, з 20 да чатырох чалавек. Сістэму ўжо ўвялі больш за 500 кааператываў Брэстчыны.

## Стварылі праграму для станцый пералівання крыві

Адной з распрацовак пры садзеянні брэсцкага тэхнапарка стала праграма «Донар» для станцый пералівання крыві. Падрабязней пра яе распавёў суправаджаючы праекта **Георгі**.

Праграму стварыла прадпрыемства «БелІнфармПраект». Арганізацыя распрацоўвае медыцынскую сістэму «Лекар». Мэта сістэмы – аўтаматызаваць і аб'яднаць у адно цэлае аб'екты рэгіянальнай медыцыны – бальніцы, паліклінікі, лабараторыі. У межах гэтай платформы распрацавалі інфармацыйную сістэму «Донар».

Прынцып сістэмы – адсачыць кроў ад вены да вены. Калі донар прыходзіць здаваць кроў, станцыя атрымлівае аператыўныя звесткі. Гэта дазваляе тут жа адмовіць у донарстве тым, хто не можа здаваць кроў.

Канешне, праверка здадзенага матэрыялу на станцыі абавязковая. Але калі кроў здае чалавек, які не мае на гэта права, бюджэт дарма выдаткоўвае рэагенты і час супрацоўнікаў. Праграма дазваляе не марнаваць сродкі.

Такую сістэму ўжо запусцілі ўсе станцыі пералівання крыві Брэсцкай і Магілёўскай абласцей. Усе, акрамя адной, у Гродзенскай вобласці. Сёлета сістэму запусцяць у Мінску.

Мінская абласная станцыя пералівання крыві, якая знаходзіцца ў Маладзечне, таксама запусціла сістэму летась. Інфармацыю пацвердзіў галоўны доктар установы **Уладзімір Світо**.

Самае галоўнае, што атрымалі распрацоўшчыкі ад тэхнапарка – адміністрацыйная дапамога. Дзякуючы іх пасрэдніцтву атрымалася знайсці паразуменне з арганізацыямі аховы здароўя. Суразмоўца дадае, што ў Беларусі атрымаць венчурнае фінансаванне рэальна хіба ад парка высокіх тэхналогій. Магчыма і ад дзяржаўнага камітэта навуковых тэхналогій. Але гэтага нашмат прасцей дасягнуць пры пасрэдніцтве тэхнапарка.

База дадзеных праграмы фізічна і юрыдычна знаходзіцца ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры трансфузіялогіі і медыцынскіх біятэхналогій. Звесткі базы абароненыя тэхналогіяй блокчэйн. Яна гарантуе, што звесткі немагчыма сцерці.

Сістэма дазваляе атрымаць неабходныя звесткі пра донара да таго, як на яго выдаткуюць рэсурсы, што эканоміць бюджэт.

Кампанія плануе распрацаваць мабільны дадатак для донараў, які будзе даваць патрэбную яму інфармацыю пра аналізы, запіс і даведкі – і не трэба будзе званіць і лішні раз наведваць медыцынскую ўстанову. Таксама распрацоўшчыкі плануюць запусціць магчымасць для сістэмы скідак донарам і ганаровым донарам.

Агулам праграма вызваляе сістэмы донарства лішнюю працу, аптымізуе работу медыкаў, палегчыць жыццё донарам і ў будучым нават матывуе іх на добрую справу.

## Тэхнапаркаў стане больш

Па інфармацыі eufordigital.eu, у Беларусі ствараюць пяць новых тэхнапаркаў. Акрамя Маладзечна, установы размесцяць у Баранавічах, Барысаве, Бабруйску і Оршы. Цяпер у Беларусі працуе 16 тэхнапаркаў. За мінулы год гэтыя ўстановы забяспечылі 500 новых рабочых месцаў. У 2021 годзе адчыняць Нацыянальны дзіцячы тэхнапарк.

## Як далучыцца

Падрабязна пра праект MOST, а таксама пра тое, як да яго далучыцца, можна пачытаць на сайце most-belarus.eu. Гэты праект створаны на пашырэнне кантактаў паміж грамадзянамі ЕС і Беларусі для наладжвання прафесійных кантактаў.

Падрабязнасці пра праект ЕС-ПРААН «Падтрымка эканамічнага развіцця на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь» чытайце на сайце by.undp.org.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка «РГ».** Венчурнае фінансаванне – доўгатэрміновыя інвестыцыі з высокай рызыкай у акцыянерны капітал для новых высокатэхналагічных перспектыўных кампаній, якія накіраваныя на прадукты з навуковым складнікам. Прыбытак атрымліваюць ад прыросту цаны ўкладзеных грошай.

*Артыкул падрыхтаваны ў межах сумеснага праекта з EU Neighbours East «Свой край: партрэты». Погляды, выяўленыя ў тэксце, належаць выключна аўтару артыкула.*

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.01 | 30.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1156 | **2.1283** |
| Еўра | 2.3450 | **2.3421** |
| Злоты, 10 | 5.5384 | **5.4754** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4188 | **3.4091** |
| Грыўня, 100 | 8.6856 | **8.5629** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **22.01** | **29.01** |
| Еўра | 2.3000/2.3800 | **2.2900/2.3700** |
| Долар ЗША | 2.0950/2.1500 | **2.0900/2.1500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 22.01 | 29.01 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,10 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,40 | **1,40** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,40** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **4,20** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **4,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 7,00 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **3,50** |
|Ківі, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,85 | **1,99** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Кіроўца наехаў на дрэва. ДАІ шукае сведкаў

МАЛАДЗЕЧНА

21 снежня мінулага года каля 20:30 невядомы кіроўца, кіруючы аўтамабілем «Крайслер-Ваяджэр», рухаючыся па першым кіламетры аўтадарогі Радашкавічы – Гранічы ў напрамку Радашкавічаў, пры закругленні дарогі налева не справіўся з кіраваннем.

У выніку ён з'ехаў у левы па ходзе руху кювет, дзе наехаў на дрэва. Пасажыры, якія былі ў аўтамабілі, атрымалі цялесныя пашкоджанні.

З матэрыялаў праверкі вынікае, што на месцы здарэння спыняліся староннія людзі, якія дапамагалі пацярпелым. Просьба сведак і відавочцаў звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Тамары Дудко, 1 – 18** або па тэлефонах: **(8 0176) 74-53-40, 74-53-43** альбо **102**.

**Сяргей БАРТОШ, ДАІ Маладзечна.**

## Адзін аднавясковец пырнуў другога нажом

ВІЛЕЙКА

Увечары 25 студзеня з бальніцы патэлефанавалі ў Вілейскі РАУС і паведамілі, што да іх паступіў мужчына з крымінальным раненнем.

Следча-аператыўная група пачала мерапрыемствы. Высветлілі, што ўдзень паміж жыхарамі вёскі Клоўсі, 33-гадовым і 58-гадовым, узнік канфлікт. Падазраюць, што 58-гадовы мужчына стукнуў нажом у жывот маладзейшаму аднавяскоўцу. Падазраванага затрымалі.

Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Свядомае нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў». Пацярпелы – кантактны. Следчыя працягваюць працаваць з ім і іншымі ўдзельнікамі здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Каля ўласнага дома знайшлі труп пенсіянеркі ў абгарэлым адзенні

ВІЛЕЙКА

Пра гэта расказалі ў інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС.

27 студзеня, каля 15:20, у Вілейскі РАНС патэлефанавалі з прыёмнага пакоя Вілейскай ЦРБ. Выратавальнікам паведамілі, што каля дома ў Вілейскім раёне знайшлі труп жанчыны.

Работнікі РАНС выехалі на месца здарэння. Тут убачылі труп жанчыны, а на ёй – абгарэлае адзенне. Стала вядома, што памерлая – гаспадыня дома, 83-гадовая пенсіянерка.

Выратавальнікі агледзелі дом. Слядоў гарэння ў ім не ўбачылі.

На месцы разам з выратавальнікамі працавалі следчыя. Прычына здарэння пакуль невядомая. Цяпер спецыялісты РАНС яшчэ працуюць на месцы. Магчыма, будуць падрабязнасці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

За свае паслугі жанчына брала ад 30 рублёў.

# Кліентаў шукала праз сацсеткі

## За занятак прастытуцыяй затрымалі 36-гадовую віляйчанку

ВІЛЕЙКА

**Жанчыну затрымалі ў Вілейцы 28 студзеня каля сямі вечара.**

Гэта жыхарка Вілейкі. Яна разведзеная, працуе ў Мінску.

– За інтымныя паслугі жанчына брала ад 30 рублёў. Кліентаў шукала па сацсетках. Сустракаліся не ў яе дома, а ў месцы, якое абіраў кліент, – расказаў карэспандэнту оперупаўнаважаны групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Вілейскага РАУС **Вадзім Бурак**.

Па яго словах, на жанчыну склалі адміністрацыйны пратакол і адпусцілі. Матэрыялы перадалі ў суд.

Як адзначыў Вадзім Бурак, гэты выпадак – першы ў Вілейцы сёлета. Летась зафіксавалі тры выпадкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● УВАГА! ВЫШУК

## У Ілы знікла 79-гадовая жанчына

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта карэспандэнту расказалі ў аддзеле вышуку Вілейскага РАУС.**



Жанчыну завуць **Зінаіда Бародка**. Яна жыве ў Ілы, на вуліцы 17 Верасня. Бародка пайшла з дому 24 студзеня каля 8:30 і знікла.

У Вілейскім РАУС не выключаюць, што жанчына магла накіравацца ў бок Чысці, дзе жыла раней.

Прыкметы: на выгляд 75-80 гадоў, рост 160-165 сантыметраў, светлыя валасы, худая.

Была апранутая: жоўтая шапка, цёмная байка, бэзавая піжама ў кветкі, сінія боты з белым футрам.

Пенсіянерку шукалі 27 студзеня 35 вайскоўцаў унутраных войскаў і адзін афіцэр, два прадстаўнікі вілейскай міліцыі і два валанцёры «Анёла». Пакуль не знайшлі.

Агледзелі тэрыторыю з дапамогай квадракоптара, абышлі закінутыя будынкі, абследавалі бліжэйшыя канавы, раку, палі.

Пошукі працягваюцца.

Усіх, хто нешта ведае пра месцазнаходжанне жанчыны, просяць паведаміць па тэлефонах: **(8 01771) 5-26-02, (8 029) 507 66 86**, або **102**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пасцель гарэла, а гаспадар спаў. На пажары загінуў мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

27 снежня маладзечанскія выратавальнікі выязджалі на выклік у вёску Загорцы Радашкавіцкага сельсавета.

Каля 17:40 аператар «хуткай дапамогі» паведаміў ім, што па гэтым адрасе патрэбная дапамога пацярпеламу з апёкамі.

Па прыбыцці першых падраздзяленняў да месца выкліку дом не гарэў. Высветлілі, што ў гэты дзень сястра гаспадара дома не змагла яму датэлефанавацца.

Пасля гэтага жанчына патэлефанавала суседу з просьбай паглядзець, што здарылася з братам, чаму не адказвае на званкі. Калі сусед прыйшоў у дом, то ўбачыў у пакоі задымленне. На ложку, які тлеў, спаў гаспадар.

Сусед выкінуў на вуліцу пасцель і выклікаў «хуткую дапамогу». Медыкі спрабавалі дапамагчы пацярпеламу. Але ад атрыманых тэрмічных апёкаў ног, пахвіны, рук 1-4 ступеняў (60%) і атручэння прадуктамі гарэння ў 19:28 работнікі рэанімабіля канстатавалі смерць гаспадара дома.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчыма, мела месца неасцярожнасць пры курэнні, паведамляе інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**. Апавяшчальніка ў доме не было.

**МНС папярэджвае:** прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. Беражыце сябе і сваіх блізкіх. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары **101** ці **112**, не забывайочы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Хлопчык забыўся ў магазіне кашалёк. Яго забраў іншы пакупнік

ВІЛЕЙКА

Днямі віляйчанка паведаміла ў міліцыю, што яе 11-гадовы сын забыўся кашалёк у магазіне.

Па словах жанчыны, сын зайшоў у магазін пасля школы. Заплечнік і пакет пакінуў у камеры захоўвання.

Калі ўжо з пакупкай выйшаў з гандлёвай залы, стаў даставаць з камеры свае рэчы. А кашалёк пакляў побач.

Дома заўважыў, што няма кашалька. Вярнуўся ў магазін, але на ранейшым месцы кашалька не было. Камера відэаназірання дапамагла міліцыянерам знайсці падазраванага. Ім аказаўся 30-гадовы мясцовы жыхар, паведамілі ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Прадалі піва і настойку 16-гадоваму хлопцу

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх даведаліся аб продажы алкаголю 16-гадоваму падлетку.

Спіртное хлопец набыў у адным з магазінаў горада. 27-гадовая касір, не пераканаўшыся, што пакупніку споўнілася 18, прадала падлетку піва і дзве бутэлькі высакаградуснай настойкі.

Момант пакупкі алкаголю трапіў на камеры відэаназірання. У дачыненні да прадаўца склалі пратакол. Жанчыне пагражае штраф да 50 базавых велічынь.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Фота Настасі УПАНИ.

Пацверджаных выпадкаў каранавіруса 2019-nCoV у Беларусі, Украіне і Расіі па стане на 29 студзеня няма.

# Распавядаем пра каранавірус 2019-nCoV і прыгадваем гісторыю эпідэмій

**Ад новага каранавіруса па стане на 28 студзеня ў Кітаі памерлі 132 чалавекі, паведаміў Дзяржаўны камітэт у пытаннях аховы здароўя. Колькасць інфіцыраваных вырасла да 6057 чалавек.**

Пацверджаных выпадкаў захворвання ў Расіі і Беларусі пакуль няма. Мы звярнуліся да спецыялістаў Мінскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, а таксама прыгадалі эпідэміі ў гісторыі Беларусі і нашага рэгіёна.

### Выязджаць у Кітай не забараняюць і не рэкамендуюць

У Мінскім абласным цэнтры гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя паведамілі, што адсочваюць сітуацыю з каранавірусам новага тыпу. Узмацнілі прафілактыку. Пад асаблівай увагай тыя, хто ўязджае ў Беларусь з краін, дзе неспрыяльная абстаноўка.

Выязджаць у Кітай з Беларусі не забараняюць, але і не рэкамендуюць. Праз тураператараў папярэджваюць грамадзян, якія выязджаюць у іншыя краіны.

Больш пільны кантроль ладзяць у аэрапорце ў Мінску. Да тых, хто прыязджае з краін, дзе ёсць захворванне, прымяняюць санітарна-каранцінны кантроль з дапамогай спецыяльнага абсталявання.

У спецыялістаў-медыкаў ёсць метадычныя рэкамендацыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якімі неабходна кіравацца пры дыягностыцы ўзбуджальніка. Гэта арганізацыя накіравала свае дырэктывы ў бальніцы па ўсім свеце.

**Тым, каму ўсё ж неабходна ехаць у краіны з неспрыяльнай абстаноўкай, раяць не бываць у месцах масавага збрышча людзей, не кантактаваць з тымі, у каго заўважныя прыкметы прастуды.**

Таксама неабходна рэгулярна мыць рукі і ўстрымацца ад ужывання недаваранага і недасмажанага мяса. Бо мяркуюць, што заражэнне адбылося ад мяса марскіх ці сухапутных млекакормячых.

### Сімптомы каранавіруса 2019-nCoV

- Агульнае недамаганне;
- кашаль;
- высокая тэмпература;
- задышка;
- у некаторых выпадках – дыярэя.

Разам з тым, захворванне можа быць і без сімптомаў. Асабліва ўразлівыя перад вірусам сталыя людзі і людзі з аслабленым імунітэтам. Інкубацыйны перыяд – ад аднаго да 14 дзён.

### З гісторыі эпідэмій у Беларусі і рэгіёне

З гісторыі Мядзельшчыны вядома, што да пачатку 20 стагоддзя горад дзяліўся на Стары і Новы. Такое дзяленне было абумоўленае эпідэміяй халеры і чумы, што мелі месца ў 15 стагоддзі.

Старажытны Мядзел узнік прыкладна ў 10 стагоддзі на востраве возера Мядзел. Але ў сярэдзіне 15 стагоддзя з-за некалькіх эпідэмій чумы і халеры людзі перасяліліся на паўночны бераг возера Мястра. Новы Мядзел вядомы з 1462 года.

У апошні год Першай сусветнай вайны ўсю планету ахапіла эпідэмія «іспанкі» – адной з формаў грыпу. Распаўсюджанню эпідэміі дапамаглі масавыя перавозкі вайскоўцаў, цеснаты і слабасць санітарнага забеспячэння. Таксама арганізм людзей быў аслаблены стрэсам ад удзелу ў баявых дзеяннях, хваляваннем за сваіх блізкіх і дрэнным харчаваннем.

Грып назвалі «іспанкай» таму, што ў Іспаніі, якая тады не ваявала, прэса найбольш свабодна пісала пра хваробу – у адрозненне ад цэнзураванай прэсы тых дзяржаў, якія ваявалі. Хоць людзі, хутчэй за ўсё, хварэлі і паміралі ўжо шмат дзе.

Эпідэмія працягвалася да 1920 года і забіла 50-100 мільёнаў чалавек з 500 мільёнаў інфіцыраваных. Такім чынам, эпідэмія за два гады забіла больш людзей, чым Першая сусветная вайна, якая цягнулася ад 1914 да 1918 года.

На тэрыторыі сучаснай Беларусі ад іспанкі асабліва пацярпелі Віцебшчына і Магілёўшчына. У Мінскай вобласці тады зафіксавалі 15 выпадкаў.

Як прыгадвалі сталыя людзі з вёскі Лёпаўшчына, што на Вілейшчыне, вяскоўцы ў барацьбе з «іспанкай» спадзяваліся на Бога. Якраз у пачатку 20 стагоддзя на ўскрайку вёскі паўстала капліца. Яна, на думку мясцовых жыхароў, павінна была засцерагчы людзей ад хваробы. Ніхто з Лёпаўшчыны на «іспанку» не захварэў. А капліца стаіць і сёння.

Каранавірус – гэта сямейства вірусаў, якое паражае людзей і жывёл. Сваю назву вірус атрымаў з-за адросткаў, падобных да шыпоў, якія нагадваюць карону.

Падрыхтавала Аксана **ЯРАШОНАК.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ФВ-Пола, 2011 г.в., рухавік 1,4. Т. (8-044) 4720414.*

• УАЗ-452 бартавы, можна на запчасткі, з дакументамі. Т. (8-033) 6317326.*

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дэджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Старыя савецкія матацыклы і запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы (2 паверх), вул. Кастрычніцкая, 40, часткова з мэбляй, 62 000 рублёў, магчымы торг. Т. (8-029) 8737092.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Незалежнасці. Мэбля. Гараж. Т. (8-029) 585482.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Касманаўтаў, д.11. Т. (8-033) 6384522.*

• Гараж у ГК-18 Маладзечна. Т. (8-033) 6384522.*

• Дом 45 кв. м у Вілейцы. Пячное ацяпленне, калодзеж, 13 сотак. Т. (8-033) 6671169.

• Дом у Вілейцы, раён «Зеніт», 55 кв. м Т. (8-029) 7610785.

• Дом у Маладзечне па вул. Велікасельскай. Т. (8-033) 6393440.*

• Кватэра 1,5, 41 кв. м агульнай плошчы ў пас. Сасновы Бор Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 1501884.*

• Участак 12 сотак у Вілейцы, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-044) 7133606,(8-029) 1825368.*

### МЯНЯЮ

• 1-пакаёвую кватэру ў к.п. Нарач на Маладзечна. Т.(8-044) 4901101.*

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бурэнне свідравін на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Цялё, 1 месяц, выгадаванае на малацэ, 350 рублёў. Т. (8-029) 2725536.

**Іншае**

• Дровы калодкамі, колатыя. Сасна сухая, магчыма, асіна, бяроза, вольха. Т. (8-029) 8740790, (8-029) 9789490.*

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць». Т. (8-029)5019550.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Трэба адцыкляваць драўляную падлогу, 50 кв. м. Т. (8-029) 2686093.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Грузчык акажа дапамогу. Т. (8-029) 8761612.*

• Зборка мэблі. Т. (8-029) 8761612.*

# Акцыю «Павесь кармушку» зладзілі ў смаргонскім садку

СМАРГОНЬ

**Дзеці, бацькі і педагогі нашага смаргонскага садка №13 вельмі чакалі зіму. І хай няма пакуль марозных дзён, але птушкам усё адно трэба камфортная сталоўка.**

Выхаванцы ясляў-сада №13 падрыхтавалі для птушак выдатныя сталовыя, якія змайстравалі разам са сваімі бацькамі.

Да вырабу кармушак хлопчыкі і дзяўчынкі падышлі творча, праявілі фантазію, уклалі душу. Кармушкі ўжо занялі свае месцы на дрэвах, якія растуць на тэрыторыі ўстановы.

Мы, педагогі, лічым, што майструючы кармушкі, дашкольнікі адчулі сябе неад'емнай часткай прыроды, праявілі сваю любоў і клопат пра братоў нашых меншых.

Пабудаваць птушкам сталовую – вельмі добрая справа, патрэбная і для птушак, і для нас саміх.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні.**


Фота забяспечанае аўтарам.

Выхаванцы смаргонскага садка №13 падчас правядзення акцыі.

## Адкрылі акадэмію 55+

МАЛАДЗЕЧНА

**28 студзеня ў адукацыйным цэнтры «Адкрытая прастора» адкрылі акадэмію 55+.**

– Мы даўно думалі адкрыць такую акадэмію. Падобныя ўжо ёсць у Гродне, Віцебску, нядаўна адчынілася ў Бабруйску. Вельмі хацелася б, каб і ў Маладзечне была такая пляцоўка, куды сталыя людзі прыходзілі б і атрымлівалі веды, і камунікавалі, – падзялілася адна з арганізатараў **Валерыя Рошчына**.

У акадэміі сталых людзей будуць вучыць англійскай мове, жывапісу, карыстанню смартфонамі і камп'ютарам. Але ж, на думку арганізатараў, кожны з такіх вучняў мае багаты жыццёвы досвед, уменні і навыкі, якімі варта падзяліцца.

Таму «Адкрытая прастора» гатовая выступіць пляцоўкай, дзе самі сталыя людзі будуць ладзіць для сваіх аднагодкаў майстар-класы і трэнінгі.

На арганізацыйныя занятні прыйшло каля дзесяці чалавек. Аднак арганізатары спадзяюцца, што ў далейшым зацікаўленых будзе больш.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Нібы я ў тэлевізары»

## Вілейская міс расказала пра ўдзел у конкурсе прыгажосці Міншчыны

ВІЛЕЙКА

**З віляйчанкай Ксеніяй Камінскай, якая ўдзельнічала ў абласным конкурсе прыгажосці, мы пагутарылі анлайн падчас мерапрыемства ў Барысаве 24 студзеня.**

– Цяпер я на конкурсе. Рыхтуюся да выхаду ў вячэрняй сукенцы. Першы выхад быў у кактэйльных сукенках, пасля – купальнікі, пасля зноў пераапраналіся. А журы абірала 25 фіналістак, – так коратка паміж выхадамі і пераапрананнямі апісала тады віляйчанка свой удзел.

Нагадаем, што ў снежні мінулага года Ксенія перамагла ў адборачным туры конкурсу ў Вілейцы. Таму і прадстаўляла горад на абласных спаборніцтвах у Барысаве 24 студзеня. Тут Ксенія атрымала дыплом фіналісткі.

– Было 75 удзельніц, – кажа Ксюша. – Усе дзяўчаты – вельмі прыгожыя. Ёсць прадстаўніцы мадэльных школ. Шмат дастойных на перамогу. У зале атмасферна – яркае свята, шмат гледачоў, вядомых людзей, фатографаў, цудоўныя мастацкія нумары. Адчуванне такое – нібы я ў тэлевізары. Дзякуй роднаму гораду, што даў магчымасць прадставіць яго на абласным конкурсе, убачыць усю гэту прыгажосць.

Ксенія дзякуе ўсім, хто яе падтрымліваў. А асаблівая падзяка бацькам – за выхаванне, любоў і веру ў дачку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Ксенія (злева) з Веранікай Кушалевай, якая атрымала тытул «Міс Міншчына».




Фіналістка абласнога конкурсу прыгажосці Ксенія Камінская.

# Чаму важна дапамагаць атраду «Анёл Паўночны Захад»

**Валанцёры атрада «Анёл Паўночны Захад» сталі пераможцамі нашай традыцыйнай акцыі «Асоба года». Анёлаў мы ўзнагародзілі ў намінацыі «Учынак года». Атрымаць узнагароду прыйшоў прадстаўнік Максім Федаровіч.**




Максім Федаровіч ад імя атрада «Анёл Паўночны Захад» атрымаў дыплом «Учынак года-2019».

Надзвычай важна ў складанай сітуацыі ведаць, што можаш разлічваць на дапамогу. Менавіта гэтым і займаюцца валанцёры атрада «Анёл Паўночны Захад». Валанцёры дапамагаюць шукаць зніклых і аддаюць на гэта свой час, веды і сродкі. Ніхто не ведае, у чый дом можа прыйсці бяда. Але ўсім нам спакайней ад таго, што на дапамогу прыйдуць тыя, хто ведае, як і што рабіць.

### З-за бясснежнай зімы больш зніклых

Звычайна зіма – час зацішша для пошукавых атрадаў. Калі снег і маразы, людзі стараюцца больш часу праводзіць дома. Таму і губляюцца не часта. Але сёлетняя зіма такога перапынку не дала. Апошні выезд маладзечанскіх анёлаў быў 25 снежня. Ужо 3 студзеня маладзечанцы выязджалі на першы пошук у гэтым годзе.

На пытанне, колькі выездаў на пошукі зрабіў атрад летась, Максім адказаў, што пасля 30-га разу збіўся. Але прыкідвалі, што ўсяго было 70-80. Быў месяц абсалютна спакойны. А здараецца, за адзін дзень прыйдзе 3-4 заяўкі. Аднойчы за адзін дзень атрад зрабіў чатыры выезды пад Мінск.

Звычайна ад атрада выязджае 4-5 чалавек на адной машыне. Атрад «Анёл Паўночны Захад» працуе на Маладзечанскі, Смаргонскі, Вілейскі, Валожынскі раёны. З гэтых раёнаў атрад атрымаў 30 заявак за мінулы год, толькі двух зніклых не знайшлі. Пры магчымасці выязджаюць на пошукі па ўсёй краіне, калі ёсць такая патрэба.

У маладзечанскім атрадзе ўдзельнікі могуць выконваць ролю старшага групы. Яны маюць добрую падрыхтоўку і досвед, таму могуць кіраваць групамі валанцёраў. Здараецца, на пошукі збіраецца нямала валанцёраў, а старшых групы няшмат. А без такіх спецыялістаў, якія ведаюць, як шукаць, дасягнуць поспеху не проста.

Таму актывісты назапашваюць досвед, удзельнічаюць у навучанні па арыентаванні на мясцовасці, каардынаванні, карыстанні тэхнікай і іншым. Менавіта веды вызначаюць поспех пошуку.

Рэкі, канавы і меліярацыйныя сістэмы аглядаюць дзве групы па два чалавекі з кожнага берага. Кожны з валанцёраў глядзіць на супрацьлеглы бераг, каб дакладна нічога не прапусціць. Гэта толькі адзін з прыкладаў, які паказвае ўзровень арганізацыі пошукаў.

– Самымі складанымі за мінулы год былі пошукі ў лясах Пухавіцкага раёна, – дзеліцца Максім. – Там часта губляліся людзі.

### Цяпер больш валанцёраў

На пошуках каардынатар ставіць перад групай дакладную задачу, а група яе адпрацоўвае. Максім адзначае, што цяпер на пошукі адгукаецца шмат валанцёраў. Асабліва актыўна адгукаюцца, калі губляюцца дзеці.

Яшчэ два гады таму актыўнасць была значна ніжэйшая. Напрыклад, на пошукі сталага мужчыны, што пайшоў у грыбы, у 2017 годзе прыйшлі два чалавекі. За гэты час пра працу анёлаў даведаліся многія, таму многія і дапамагаюць у пошуках.

Атрад супрацоўнічае з міліцыяй. У Валожынскім раёне сталая жанчына пайшла на цягнік. Ішла праз мост, не ўтрымала раўнавагу і ўпала ў раку.

Шукалі сталага мужчыну – у яго былі праблемы з памяццю. Нікога ні аб чым не папярэдзіўшы, знік. Аказалася, што з дома ў Валожынскім раёне сам дабраўся да мінскай кватэры.

У пошуках дапамагаюць супрацоўнікі МНС. Валанцёры хваляць маладзечанскіх выратавальнікаў, кажуць, яны працавітыя і здольныя, да пошукаў ставяцца адказна.

### Сваякі зніклых не павінны хлусіць

Калі анёлы валодаюць правільнай інфармацыяй пра зніклага, то могуць знайсці хутка. Дзяцей і падлеткаў знаходзілі цягам гадзіны, таму што ведалі, як сябе паводзяць людзі іх узросту.

Часам сваякі зніклых не хочуць расказваць інфармацыю, якая не самая прыемная. І пры гэтым хаваюць тыя звесткі, што могуць дапамагчы. Сваякі мусяць шчыра адказаць на 50 пытанняў, з якімі да іх звяртаецца валанцёр. Ад адказаў залежыць, якую методыку пошуку абяруць і, урэшце, ці знойдуць зніклага.

Пра тое, ці злоўжывае чалавек алкаголем, ці дзяліўся суіцыдальнымі думкамі, у якім стане сышоў, важна расказаць так, як ёсць. Гэта дапаможа знайсці сваяка, а інфармацыю ніхто распаўсюджваць не будзе.

### Як далучыцца

Сёлета ля Радашкавічаў будуць зноў ладзіць вучэнні ад атрада «Анёл». Далучыцца можа любы ахвотны. Максім тлумачыць, што наведаць вучэнні варта нават проста для сябе. Каб ведаць, як збірацца ў лес, арыентавацца на мясцовасці і якім чынам сябе паводзіць, каб не заблукаць.

На саміх пошуках навічкоў ставяць разам з дасведчанымі валанцёрамі, якія будуць усё кантраляваць. І першы выезд раяць выбіраць не самы складаны.

Здараецца, некаторыя прыходзяць паспрабаваць сябе ў атрадзе, а пасля першага выезду кажуць, што гэта выпрабаванне не для іх. Гэта нармальна, але дапамагаць у пошуку можна не толькі на выездах. Усё ж гэта і фізічна, і эмацыйна складана. Бывае, валанцёр у пошуках усю ноч хадзіў па складаным лесе, а раніцай мусіў ісці на працу. Такое зможа не кожны.

### Як можна дапамагчы

У атрадзе працуюць валанцёры. За сваю дзейнасць яны не атрымліваюць заробак. А ўсе расходы, якія вымагаюць пошукі, пакрываюць самі. Для эфектыўнай працы неабходна абсталяванне. У мінулым годзе база атрада папоўнілася пяццю ліхтарамі. Ёсць і іншыя прыстасаванні, якія палепшылі б вынікі пошукаў.

Базу важна развіваць. З абсталявання патрэбны мегафон, спецыяльны сігнал, што мацуецца на машыне і дапамагае знікламу выйсці на гук.

Адно з самых балючых пытанняў – паліва. Каб даехаць да месца пошуку і вярнуцца, валанцёры скідваюцца. Таму асабліва вітаюць далучыцца людзей з транспартам.

Дапамога можа быць розная. Нехта, напрыклад, раздрукуе арыенціроўкі, іншы – расклеіць іх. Некаторыя адсочваюць каментары пад пастамі пра зніклых. Усё гэта дапамога, дзякуючы якой атрад паспяхова выканае сваю працу. Таму што, хто ведае, яна можа спатрэбіцца кожнаму.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



# тэлетыдзень

**3-9 лютага**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Маяк» – новы разумны фільм жахаў



Фота styleinsider.com.ua.

Дэфо і Пацінсан былі адзінымі акцёрамі на пляцоўцы.

**16 студзеня ў пракат выйшаў псіхалагічны хорар Роберта Эгерса, у якім Уілам Дэфо і Роберт Пацінсан, замкнутыя на востраве, павольна вар'яцеюць ад самоты і п'янства.**

### Пра што гэта?

Канец XIX стагоддзя. Двое суровых мужчын прыбываюць да маяка на востраве. Тут ім трэба будзе правесці месячную вахту. Старэйшы, бывалы (Уілам Дэфо), будзе распараджаць байкі, млець пад гіганцкай лямпай і муштраваць маладзейшага – былога лесаруба (Роберт Пацінсан), якому, відома, дастанецца ўся брудная работа. Але праз месяц здарыцца бура, і на змену ніхто не прыйдзе.

Маладзейшы не адпускае ўласнае мінулае. Так спачатку хлопец, які адмаўляўся ад алкаголю, усё часцей прыкладваецца да бутэлькі. І неўзабаве на камяністым востраве – ці то яму здаецца, ці то на самой справе – пачынае адбывацца чартаўшчына.

### З-за чаго такі ажыятаж?

Насамрэч, з-за тэхнічных момантаў. У кадры ўсяго два чалавекі і ўсяго адна лакацыя – спецыяльна адбудаваны для фільма маяк у канадскай Новай Шатландыі. Носьбіт – 35-міліметровая плёнка, ч/б, фармат кадра – 1.19. Гэта рэдкая, амаль квадратная рамка, характэрная для фільмаў канца 1920-х – пачатку 1930-х, калі кіно станавілася гукавым.

### Як здымае Эгерс?

Эгерс заўсёды ідзе ад атмасферы. Адбіваецца яго досвед працы мастаком-пастаноўшчыкам, які занадта востра разумее цану дэталі ў кадры, каб упусціць нешта.

**Калі мастак становіцца рэжысёрам, гэта часам робіць шакавальны, нават задушлівы эфект татальнага падпарадкавання задуме. Усё развіваецца ў логіцы сну, візуальнага фантазму, у якім важны не змест, але почырк.**

«Маяк» – той фільм, у якім і сапраўды амаль кожная рэпліка або кадр тапырацца ад алюзій і адсылак.

***

Перапоўненасць «Маяка» алюзіямі, літаратурнымі, кінематаграфічнымі ці нават псіхааналітычнымі,ператварае фільм у спакуслівы прадмет для апісання. Але прагляд, на жаль, дастаўляе куды меншае задавальненне. Фільм ні разу за ўсе сто з лішнім хвілін не выходзіць за рамкі чаканага, пульс гэтага вар'яцтва роўны, як кручэнне пражэктара на вяршыні маяка. Зоркі забаўляюцца з усіх сіл, але ўжо праз паўгадзіны да нястрачнасці Дэфо і сарціпнага клопату Пацінсана абвыкаеш. Каб захапіцца фільмам па-сапраўднаму, падобна героям, убачыць у «Маяка» не проста сігнальны агонь, а чароўны ліхтар, метафару кіно, якое магічным чынам дорыць кожнаму свае ўнікальныя цені. Тады праца Эгерса раптам напоўніцца сэнсам, перайшоўшы з разраду старанных фармальных практыкаванняў у нешта большае.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 3 ФЕВРАЛЯ

**7.00, 15.50, 18.15, 21.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35** Х/ф **«ТАРЗАН».**
**9.20, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.05** Д/с «Дикая Арктика».
**10.50** Х/ф **«БЕГЛЕЦ».**
**13.05, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.35** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.55** «Юморинка».
**16.00** «Мульт-парад».
**17.25** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ШАРОВАЯ МОЛНИЯ».**
**23.05** Х/ф **«ДА ПРИДЕТ СПАСИТЕЛЬ».**
**1.00** «Погода» + «Эрана».

### ВТОРНИК, 4 ФЕВРАЛЯ

**7.00, 15.50, 18.15, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.55** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«БРИДЖЕС ДЖОНС».**
**9.40, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.25** Д/с «Дикая Арктика».
**11.10** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ШАРОВАЯ МОЛНИЯ».**
**13.05, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.40** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.55** «Мульт-парад».
**17.00** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**17.25** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕРЕПРАВА».**
**23.20** Х/ф **«ХОТ-ДОГ».**

### СРЕДА, 5 ФЕВРАЛЯ

**7.00, 15.55, 18.20, 21.15, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт- парад.
**7.30, 16.00** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«МАММА МИА».**
**9.30, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.15** Д/ф «ВОЛНА И МИР».
**11.00** Х/ф **«ПЕРЕПРАВА».**
**13.10, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.45** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**17.00** «Законы привлекательности».
**17.35** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.00** «Цена недвижимости».
**21.20** Х/ф **«ТРИ ДНЯ НА ПОБЕГ».**
**23.25** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЙ ХАЛК».**

### ЧЕТВЕРГ, 6 ФЕВРАЛЯ

**7.00, 15.40, 19.55, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.30, 15.45** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«КОПЫ В ЮБКАХ».**
**9.45, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ТРИ ДНЯ НА ПОБЕГ».**
**13.00, 18.15** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.35** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.50** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.40** «Готовь как шеф».
**18.00** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НИКИТА».**
**23.10** Х/ф **«ФРАНЦУЗСКИЙ ПОЦЕЛУЙ».**

### ПЯТНИЦА, 7 ФЕВРАЛЯ

**7.00, 16.00, 19.55, 21.05, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.30** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ЖИЛИ-БЫЛИ».**
**9.00** Мультфильмы «Падал прошлогодний снег».
**9.15, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.00** Д/ф «ТАЙНА ВОДЫ».
**11.25** Х/ф **«ДА ПРИДЕТ СПАСИТЕЛЬ».**
**13.20, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**17.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕРВОМУ ИГРОКУ ПРИГОТОВИТЬСЯ».**
**23.30** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР. СУДЬБА ПЕРЕПИСАНА».**

### СУББОТА, 8 ФЕВРАЛЯ

**7.00** «Погода»+ «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Вольт».
**8.40** «Утрямдия».
**8.45** Х/ф **«КТО ПОДСТАВИЛ КРОЛИКА РОДЖЕРА».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ПЕРВОМУ ИГРОКУ ПРИГОТОВИТЬСЯ».**
**13.15** Х/ф **«МОРСКОЙ БОЙ».**
**15.25, 19.05, 21.15, 1.50** «Погода» + «Эрана».
**15.30** Мультфильмы «История игрушек».
**17.10** Х/ф **«ФАНТОМАС».**
**19.10** Х/ф **«ИГРЫ ПАМЯТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ЛАРА КРОФТ».**
**23.20** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ ПРОТИВ МУЖЧИН».**
**0.40** Х/ф **«КРЫМСКИЕ КАНИКУЛЫ».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 9 ФЕВРАЛЯ

**7.00, 14.50, 18.35, 21.10, 1.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.00** Х/ф **«ВА-БАНК».**
**9.45** «Утрямдия».
**9.50** «Законы привлекательности».
**10.30** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ИГРА».**
**12.50** Х/ф **«ЛАРА КРОФТ».**
**14.55** «Смотрим всей семьей». «Чародейка».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ЗЕРКАЛО МЕРТВЕЦА».**
**17.30** Т/с **«КАСЛ».**
**18.15** «Цена недвижимости».
**18.40** Х/ф **«ЗОВ ОКЕАНА».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗАКАТ».**
**23.40** Х/ф **«ВОИН».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 3 ФЕВРАЛЯ

**6.30** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**8.20** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**10.15** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**13.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**15.20** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**17.10** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«БАБЛО».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 4 ФЕВРАЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**
**13.00** Х/ф **«БРАТЬЯ СИСТЕРС».**
**15.10** Х/ф **«НЕ ГРОЗИ ЮЖНОМУ ЦЕНТРАЛУ, ПОПИВАЯ СОК У СЕБЯ В КВАРТАЛЕ».**
**16.30** Х/ф **«БАРМЕН».**
**19.15** Мая Радзіма.
**19.30** А знаете ли вы?
**19.40** Фрагменты истории.
**20.15** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 5 ФЕВРАЛЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Мая Радзіма.
**8.00** Свет души.
**8.15** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**10.00** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**13.00** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО».**
**16.10** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**18.40** По правилам таможни.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 6 ФЕВРАЛЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.15** Х/ф **«МЕРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**10.00** Х/ф **«СЕМЬЯ ПО-БЫСТРОМУ».**
**12.00** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА».**
**15.00** Рядом со звездой.
**19.15, 22.15** Мажорный лад.
**20.15** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПО НЕВОЛЕ».**

### ПЯТНИЦА, 7 ФЕВРАЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00** Будьте здоровы.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.00** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И МОРСКОЙ ЦАРЬ».**
**9.40** Молодечно - город здоровья. Спартакиада.
**11.40** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО».**
**13.55** Х/ф **«ШЕФ».**
**15.35** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**16.50** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.20** По правилам таможни.
**20.20** Х/ф **«НЕВАЛЯШКА».**
**22.20** Мажорный лад.

### СУББОТА, 8 ФЕВРАЛЯ

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30** Мая Радзіма.
**13.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**14.50** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**16.25, 21.10** Новости БЖД.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.30** По правилам таможни.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 9 ФЕВРАЛЯ

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.10** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**18.50** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**20.20** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**21.30** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**

## Беларусь 1

**6.30** Х/ф **«ПРОСТИ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.20** «Все за стол!».

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ДАВАЙТЕ ПОЗНАКОМИМСЯ».**

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.05** Х/ф **«ВТОРАЯ ПЕРВАЯ ЛЮБОВЬ».**

**19.50** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ПОЛЮБИ МЕНЯ ТАКОЙ...».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.20** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.35, 19.40** Телебарометр.

**9.40** «ЖаннаПожени». Свадебное шоу.

**10.35** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**11.30** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.15** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**13.20** Приключенческая фантастика «Стартрек: Возмездие».

**15.30** Премьера. «Ужин не нужен».

**16.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.55** Х/ф **«ЗНАКОМСТВО С РОДИТЕЛЯМИ».**

**20.15** «Орел и Решка. Рай и ад». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** «Супержена». Реалити-шоу.

**22.10** Х/ф **«ЗВОНОК».**

**0.00** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.00, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Гадкий утенок». Мультфільм.

**8.40** «Непадатлівыя». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Варэнікі па-дрочаўску.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Дамы запрашаюць кавалераў». Мастацкі фільм.

**13.20** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**14.00** «Жыве ў сэрцы музыка народа». Канцэрт Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята».

**15.35** «Люблю і памятаю». Аўтарская праграма Уладзіміра Арлова. Народны артыст БССР, народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі.

**16.15** «Чырвонае лісце». Мастацкі фільм [СТ].

**17.45** «Людзі на балоце». Мастацкі фільм [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Каханне з прывілеямі». Мастацкі фільм.

**23.15** «Арт-гісторыі». «З калекцыі Лідзіі Русланавай».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ДВЕНАДЦАТЬ ЧУДЕС».**

**11.40** «Видели видео?».

**13.25** «Игорь Матвиенко. Круто ты попал...».

**15.00** «Точь-в-точь».

**16.20** «Точь-в-точь». Продолжение.

**18.20** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.05** Премьера. «Dance Революция».

**23.50** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**0.10** Х/ф **«ПРО ЛЮБОВЬ. ТОЛЬКО ДЛЯ ВЗРОСЛЫХ».**

## СТВ

**6.35, 1.10** «Секретные территории».

**8.10, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловать».

**10.30** «Большой город».

**11.05** Документальный проект.

**11.50, 13.40, 16.40** Т/с **«СЕДЬМАЯ РУНА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Неделя спорта».

**22.45** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.15** «Беларусь сегодня».

**6.50** Мультфильмы.

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00** Новости.

**10.15** «Играй, дутар».

**10.50** Т/с **«РАЗВОД И ДЕВИЧЬЯ ФАМИЛИЯ».**

**15.15, 16.15, 19.30** Т/с **«СЕДЬМОЕ НЕБО».**

**16.00** Погода в Мире.

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**21.05, 1.00** Т/с **«ДОМ-ФАНТОМ В ПРИДАНОЕ».**

**2.20** «Наше кино. История большой любви».

**4.45** Т/с **«ОДНОЛЮБЫ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Спорт-микс.

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Тело человека».

**7.20** Женщины и спорт.

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «Однажды...».

**9.05** Родные люди.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.45** «Дачный ответ».

**12.45** «Поедем, поедим!».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ЧЕРНОВ».**

**16.20** «Следствие вели...».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.15** «Звезды сошлись».

**21.40** Ты не поверишь!

**22.45** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.15** Х/ф **«МИРАЖ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«МАМОЧКА МОЯ».**

**10.15** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**11.10** ПРЕМЬЕРА. «Устами младенца».

**12.00** ПРЕМЬЕРА. Всероссийский потребительский проект «Тест».

**13.00** Х/ф **«ДОПУСТИМЫЕ ЖЕРТВЫ».**

**14.50** Х/ф **«ОТ ПРАЗДНИКА К ПРАЗДНИКУ».**

**16.45** Х/ф **«НИКТО КРОМЕ НАС».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** ПРЕМЬЕРА. «В людях».

**21.45** Х/ф **«ТЕТЯ МАША».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 16.25** Поймай толстуху, если сможешь. **8.20** Ещё одна из рода Болейн. **10.25** Елизавета. **12.35** Золотой век. **14.35** Эволюция. **18.25** Смурфики. **20.10** Смурфики 2. **22.00** Легенды осени. **0.25** За пропастью во ржи. **2.20** Ветреная река.

### TV1000 ACTION

**7.10** Неудержимый. **8.55** Ларго Винч 2: Заговор в Бирме. **11.00** Из Парижа с любовью. **12.35** Другой мир. **14.40** Другой мир 2: Эволюция. **16.35, 3.25** Другой мир: Восстание ликанов. **18.05, 1.35** Другой мир: Пробуждение. **19.30** Ускорение. **23.55** Игра на выживание. **5.10** Гудзонский ястреб.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.25** Ехали два шофёра. **8.55** Узник замка Иф. Аз воздам. **10.35** Чудесный колокольчик. **10.55** Питер FM. **12.30** Мне не больно. **14.25** Девушки бывают разные. **16.10** Спарта. **17.50** Килиманджара. **19.15, 5.30** СуперБобровы. **20.55** СуперБобровы. Народные мстители. **22.30** Одной левой. **0.05** Каменная башка. **1.50** Время Первых. **4.05** Убежать, догнать, влюбиться.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.30** Х/ф **«ГЛОБАЛЬНАЯ КАТАСТРОФА». 12.15** Х/ф **«ВНИЗУ». 14.00** Х/ф **«ЭПИДЕМИЯ». 16.45** Х/ф **«СМЕРЧ». 19.00** Х/ф **«ПИК ДАНТЕ». 21.00** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА». 23.30** «Последний герой. Зрители против звёзд». **0.45** «Последний герой. Год спустя». **2.00** Х/ф **«ПОКИНУТАЯ». 3.30, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 13.00** Т/с **«В СТОРОНУ ОТ ВОЙНЫ». 14.00, 15.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 20.00, 21.00** Т/с **«ОПЕРАЦИЯ ГОРГОНА». 22.00, 23.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 4.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. ПОПРЫГУНЧИКИ». 5.00** Т/с **«НА ПУТИ К СЕРДЦУ». 6.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 7.00** Т/с **«АДМИРАЛ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА». 2.40, 4.20** Х/ф **«ПРОЕКТ «. 6.20** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ». 8.40** Х/ф **«УЕДЕМ К ЧЕРТОВОЙ БАБУШКЕ». 10.35** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО». 12.10** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ». 14.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВО С НЕУДАЧНИКАМИ». 15.50** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ?». 17.40** Х/ф **«БАРМЕН». 19.30** Х/ф **«ОВЕЧКА ДОЛЛИ БЫЛА ЗЛАЯ И РАНО УМЕРЛА». 21.50** Х/ф **«ИРОНИЯ ЛЮБВИ». 23.25** Х/ф **«ДЕНЬ ВЫБОРОВ ПО-ФРАНЦУЗСКИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00, 2.00, 2.55, 4.00, 5.05, 6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 10.00** «Разведчицы». **11.00, 12.00, 13.00, 14.00** «Старое ружье». **15.00, 15.50, 16.45, 17.40, 18.35, 19.30, 20.25, 21.20** «Истребители». **22.15, 23.05** «Черный список».

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35, 23.05** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.45** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.05** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.25** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.00, 2.45** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.35** Шоу «САРАНХЭ». **12.35** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.20, 19.20, 1.25** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.50** Х/ф **«ЗАМБЕЗИЯ». 17.25** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **20.50** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА». 0.05** Т/с **«ГАЛЫГИН.RU». 3.15** Make-over шоу «РОГОВ В ГОРОДЕ». **4.05** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 16.10** Азбука спорта. **7.10** Футбол. Чемпионат Англии. Эвертон – Кристал Пэлэс. **9.10** Теннис. Кубок Федераций. Нидерланды – Беларусь. **11.15** Гандбол. Лига Чемпионов. Порту (Португалия) – Веспрем (Венгрия). **12.55** Футбол. Лига чемпионов. **13.25** Конькобежный спорт. Кубок мира. Калгари. **16.20** Игры «на вырост». **16.50** Спорт-центр. **18.50** Гандбол. Лига Чемпионов. Мотор (Украина) – БГК им.Мешкова (Беларусь). В перерыве Спорт-центр. **20.30** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Вест Хэм. 2-й тайм. **21.30** Питстоп. **22.00** Итоги недели. **22.45** Баскетбол. Единая лига ВТБ. УНИКС – Цмокі-Мінск.

### EUROSPORT

**1.35** Горные лыжи. Кубок мира. Гармиш-Партенкирхен. Женщины. Скоростной спуск. **2.30** Горные лыжи. Кубок мира. Шамони. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **3.30, 7.00** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». 4-й этап. **4.30, 8.00** Велоспорт. «Тур Лангкави». 3-й этап. **5.00** Снукер. Мировой Гран-при. Челтнем. 1/2 финала. **8.30, 19.45** Фристайл. Кубок мира. Фельдберг. Кросс. **9.30, 18.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Виллинген. Мужчины. HS 145. **10.30, 11.50** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Отепя. HS 100. **11.15** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Отепя. Гонка преследования. **12.50** Горные лыжи. Кубок мира. Гармиш-Партенкирхен. Женщины. Супергигант. **14.45** Горные лыжи. Кубок мира. Шамони. Мужчины. Параллельный слалом-гигант. **16.30** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». 5-й этап. **20.50, 21.55** Снукер. Мировой Гран-при. Челтнем. Финал.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 6.15, 14.05, 15.00, 1.15, 2.15** Работяги. **6.30, 7.15** Трасса А2. **8.05, 10.00, 13.15, 15.50, 19.10, 0.10, 2.00, 4.10** Итоговые новости. **8.20, 17.25** Тест на Драйве. **8.50, 9.45, 16.55, 17.55** Все включено. Эксклюзив. **9.05, 10.35, 17.10, 18.10** Куда уходит детство. **9.20** Тест на «Драйве». **10.15, 18.20** Эконом-тест. **10.50** Советы юриста. **11.30, 19.25, 22.45, 3.00** Гаражная команда. **12.25, 18.40, 20.20, 23.40, 3.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **12.55, 20.50, 0.25, 4.25** Школа внедорожного вождения. **13.35, 0.45** Сити тестер. **14.25, 1.30** Комплектация. **15.20, 21.10, 2.30, 4.40** Автомобильные музеи мира. **16.10, 22.25** Хорошо забытое. **16.25** Возвращение легенды. **21.40, 5.10** Вечер с Пикуленко. **5.50** Наезд!

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.30, 7.20, 8.10** Чудовищный карп. **9.00** Большой улов. **9.55** Речные чудовища. **10.50** Строительство гигантов. **11.40, 3.30, 4.25** Короли разрушения. **12.30, 13.20, 14.10** Выживание в лесу. **15.00, 15.25** Охота на оленей. **15.50** Охотники на морских ежей. **16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50, 23.35, 1.55, 2.45** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.10** Уникальные дома из дерева. **5.15, 5.45** Битва за карпов.

### HISTORY

**6.25, 5.05, 5.30** Невероятные изобретения. **6.50, 7.40** Частная жизнь коронованных особ. **8.30, 9.20, 10.10** Запретная история. **11.00, 11.50** В поисках «Восточного экспресса». **12.35, 13.25, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.25** Смертоносный интеллект. **18.15, 19.10** Падение империи. **20.00** Тридцатилетняя война – Железный век. **21.00** Лондон: 2000 лет истории. **21.50, 22.35, 4.15** Тайны британских замков. **23.25, 23.55** Тайны Парижа. **0.20, 1.10, 1.55** Мифы и чудовища. **2.45, 3.30** Музейные тайны.

### NATURE

**6.15, 23.25, 23.50, 0.15, 0.40** Природа в кадре. **6.40** Мир природы – лемур-блюз. **7.35** Мир природы: морж – двухтонный клыкач. **8.30** Мир природы – очковые медведи. **9.25** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **10.20** Мир природы: повелитель летучих мышей из Мексики. **11.15, 12.10, 13.05, 14.05** Супервeтеринар: Ноэл Фитцпатрик. **15.00, 19.45** Берег хищников. **15.55, 16.30, 17.05, 17.40, 18.15** Самые смертоносные. **18.45** Невероятные животные. **20.40** Суровая Австралия. **21.30** Речные чудовища. **22.25** Земля больших кошек. **1.05** Жуткие, настоящие и странные. **1.55** Анатомия крупнейших животных. **2.40** Ветеринар из Йоркшира. **3.30, 3.50, 4.15, 4.40, 5.05, 5.30** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Как побеждать во всем. **6.25, 6.50** Зона строительства. **7.20, 8.05** Суперсооружения. **8.55, 9.40** Игры разума. **10.25, 11.10, 1.25, 2.10** Авто – SOS. **12.00** Свидетели катастроф. **12.45, 15.50, 19.50** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **13.30, 14.15** Затерянные сокровища Египта. **15.00** Инстинкт выживания. **16.35** Антарктика. **17.20** Враждебная планета. **18.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **19.00, 22.15, 23.00, 2.55** Осушить океан. **20.35** «Фри-соло». **23.50, 0.35** Затерянные сокровища Майя. **3.45, 4.30** Расследования авиакатастроф. **5.15** Мегаполисы.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00** Охота в Приволжье. **6.25, 10.30, 14.30** Рыбалка 360. **6.55, 11.00, 15.00, 18.55** Россия заповедная. **7.25, 11.30, 15.25, 19.30** Камский спиннинг. **7.55, 4.00** Люди дикого севера. **8.45, 4.50** Какая дичь! **9.00, 23.10, 1.35, 3.00** Территория льда. **9.30, 13.25, 17.25, 0.10, 1.10, 5.30** Мир рыболова. **12.00, 16.00** Рыболовные путешествия. **12.55, 20.30** Профессиональная рыболовная лига. **13.55** Охота и рыбалка в. **16.55, 3.30, 5.05** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **18.00** Рыболовная школа для взрослых. **18.30** Экстремальный фидер. **20.00** Ледовые тропы рыбалки. **21.00** На рыбалку с охотой. **21.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **22.05, 2.05** Пофестивалим! **22.35, 2.30** Охота по-фински. **23.40, 0.40** Фишермания.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 14.00, 18.00, 22.05, 2.10** Легендарные братья-пекари. **6.45, 10.45, 14.50, 18.50, 3.00** Готовим на Майорке. **7.05, 11.00, 15.05, 19.10, 3.15** Беспокойное хозяйство. **7.35, 11.35, 15.35, 19.40, 23.40, 3.45** Профпригодность. **8.05** Огород круглый год. Лайфхаки. **8.35, 12.40, 16.40, 20.45, 0.45, 4.45** Высший сорт. **8.50, 12.55, 16.55, 21.00, 1.00, 5.00** Дачных дел мастер. **9.20, 9.35** Огород круглый год. **12.05, 20.10, 4.15** Лучки-пучки. **12.25, 16.25, 20.30, 0.25, 4.30** Дачные хитрости. **13.25, 17.25, 21.30, 5.30** Альтернативный сад. **16.05** 8 ошибок огородника. **22.55** Не просто суп! **23.10** Тихая моя родина. **0.15** Флористика. **1.30** Профотбор. **1.55** Домашняя косметика!

# «А я такая маленькая была, што на лаве падсудных не відаць»

## Ураджэнка Смаргоні – пра арышты школьнікаў і расстрэл Расціслава Лапіцкага

*Працяг. Пачатак у №4*

**СМАРГОНЬ**

У 1949 годзе ў Смаргоні сталі з'яўляцца ўлёткі, якія заклікалі не падпарадкоўвацца савецкай уладзе. Нават на будынку міліцыі ўмудрыліся наляпіць. НКВД збілася з ног у пошуках злачынцаў.

Якое ж было здзіўленне, калі даведаліся, што падпольная арганізацыя спрэс складалася з дзяцей мясцовай школы ад 14 да 18 гадоў. А ўзначальваў яе вучань 10 класа, сын святара.

**– Калі вы прызналіся, што ведалі аб арганізацыі?**

– Калі прывялі маю суседку па парце **Тамару**. Я спачатку яе не адразу пазнала.

Страшная, схуднелая, уся ў сіняках. Хадзіла ледзь-ледзь і гаварыць не магла.

Павольна так казала і ціха. Гэта была вочная стаўка. Яе пытаюць: «Каму вы распавядалі аб падпольнай арганізацыі?» Яна, бедная, глядзіць на мяне і адказвае: «Чаславе Ашукоўскай!» Я кажу: «Не! Я не ведала!» А яна нахілілася да мяне і так настойліва і спалохана кажа: «Успомні. Гэта было на ўроку гісторыі. Я цябе спытала, ці не хочаш ты з намі расклейваць улёткі? Ты адмовілася». І мне нічога не заставалася рабіць, як прызнацца.

А потым быў ваенны трыбунал. Божа ты мой, нас, школьніц, судзілі ваенным трыбуналам!

**– Судзілі ўсіх разам?**

– Не. Усіх паасобку, па двое і ў розны час. Бо арышты пачаліся да Новага года. Усе так баяліся арыштаў! У мяне мама пыталася: «Ты нічога не ведала пра гэта? Не ўдзельнічала?» Я адказвала: «Не». Спадзявалася, што ніхто не даведаецца. Спачатку арыштавалі Славіка, потым Тамару, потым іншых. Іх і судзілі раней. Славіка прысудзілі да расстрэлу. Тамару – да 25 гадоў.

Нас судзілі разам з той дзяўчынкай, якую арыштавалі разам са мной у школе. Тых, хто расклейваў улёткі, узялі адразу і, мабыць, працавалі з імі. А маё імя і імя **Марыі** ўсплыло ў выніку допытаў. З іх выбівалі – хто яшчэ ведаў. За тое, што мы ведалі і не данеслі, і судзілі.

Марыі далі 10 гадоў, мне – 8. Пашкадавалі, што я яшчэ непаўналетняя. А я такая маленькая, мяне на лаве падсудных і не відаць было.

Марыя на судзе крыху страціла розум, як цяпер кажуць, дах паехаў. Ну што вы хочаце, мы ўвогуле дзецьмі былі…

**– Як жа вы гэта перажылі?**

– Ведаеце, гэта проста абрынулася на тваю галаву – і ўсё. А далей ужо ні думак, ні пачуццяў. Проста звярыны нюх і імкненне выжыць.

Гэта значыць – маўчаць, у вочы не глядзець, рабіць, што скажуць.

Я не асэнсоўвала тады нічога. Ведала: ніхто мне не можа дапамагчы. Так атрымалася. І прыняла гэта жыццё.

Першы год, чакаючы паўналецця, Часлава шыла казённую вопратку ў мясцовай турме. А як толькі ёй споўнілася васямнаццаць, яе адправілі па этапе ў Салікамск, адзін з лагераў ГУЛАГа, нарыхтоўваць лес.

Была позняя восень. Іх, жанчын, пагрузілі ў «нечалавечыя» вагоны – без нараў, без цяплушак, загадалі легчы на падлогу. Паклалі так цесна, што без каманды было не павярнуцца (ды і нельга). Так і спалі – паварочваючыся па камандзе. Ежы не давалі – толькі ваду. У кожнага быў сухі паёк – жменька сухароў.

Да Пермі ехалі некалькі дзён, а калі прыбылі ў Салікамск, там ужо была зіма. І мароз стаяў траскучы. Два тыдні каранціну потым прыгадваліся як рай – і лазня была, і смуроднае мыла ад вошай. І нават калі рабілі наколку на перадплечча – той самы нумар – здавалася не балюча. Апякала толькі адно – наперадзе былі гады лесапавалу.

– Калі нас адправілі па бараках, пашанцавала, што пад апеку ўзялі «зэчкі» з досведам. У нас лагер быў палітычны, таму ўсе шкадавалі адзін аднаго і па магчымасці дапамагалі. А я была самая маладая. Самая маленькая. Таму мне вызначылі ў брыгадзе секчы сукі, вазіць на кані дрэва на склад, нарыхтоўваць для вогнішча. Увогуле, рабіць усё, што спатрэбіцца. Больш дужыя дзяўчаты пілавалі вялізныя дрэвы.

А, ведаеце, якія там векавыя карабельныя хвоі! Дык трэба ж было глядзець, каб не патрапіць пад сасну! Колькі загінула дзяўчат… Адзін раз я ў вогнішча ўпала. На мне ватовыя штаны, ватоўка і валёнкі 60-га памеру, я хадзіць не магла, спатыкнулася – і ў агонь. Сама б не ўстала, дзякуй, дзяўчаты выцягнулі, збілі полымя. Валасы, бровы спаліла, твар абгарэў. А па-іншаму апрануцца было нельга. Маразы – 40-50 градусаў.

**– Салжаніцын піcаў, што іх пры мінус 41 градусе на працы не выводзілі.**

– Можа, іх і не выводзілі, а нас вадзілі ў любое надвор'е. Выхадных ні разу не было. Чытала я Салжаніцына. Дзівілася. У іх і пасылкі былі, якія дапамагалі ім пратрымацца. І грошы ім выдавалі, на якія яны маглі купіць сабе што-небудзь. Проста казка ў параўнанні з намі. Санаторый. У нас усё было забаронена. Ні пасылак, ні крамкі, ні грошай. У іх там на нарах і коўдры нейкія былі. А ў нас – голыя нары. Ватоўку з сябе сцягнеш – і ў сушылку. Спіш у тым, што пад ватоўкай было. У дзень давалі дзвесце грамаў хлеба, калі выканаем норму. Не выканаем – сто грамаў. Раніцай і ўвечары рыба перамёрзлая салёная. Хто дажываў да лета, ратаваўся ягадамі. Было шчасце, калі на маліннік натрапім. Дасведчаныя траўку збіралі, нам давалі жаваць.

**– А лісты хоць з дому былі?**

– Раз на месяц дазвалялася напісаць або атрымаць. Але што напішаш? Я звычайна чытала з дому: «Усё ў нас добра, усе жывыя». Паспрабавалі б яны напісаць, што ў іх нядобра.

**– Вы былі ўсе маладзенькія, няўжо ахова вас не шкадавала?**

– Часам проста заўважала спачувальны позірк, але што яны маглі зрабіць? Гэта ж сістэма. У шэсць раніцы – пад'ём. У сем – строіцца. «Крок налева, крок направа – расстрэл». Цяпер гэта часта вымаўляюць як жарт. А я гэта чула кожны дзень па раніцах. Потым ідзеш па глыбокім снезе да сваёй новай дзялянкі. І ўвесь дзень сячэш і сячэш галінкі на дрэвах. Калі мне выпадала вазіць «хвасты» на склад, я нават радавалася. Дзяўчаткі мацней прывязваюць камель да воза, я бяру коніка пад аброць і, патанаючы ў снезе, вяду туды, дзе складзіруюць. Там мяне і такіх, як я, з іншых дзялянак сустракае брыгада, яны ўкладваюць велізарныя ствалы ў высачэзныя горы. А я іду назад. Гэта была самая лепшая праца, калі завеі жорсткай не было. Праўда, там я ледзь не загінула. Добра, што гэта здарылася, пакуль я недалёка сышла.

Нага саслізнула з каляіны і трапіла ў барazну, па якой ішоў воз, а за ёй – прывязанае дрэва. Мяне зацягнула – і абедзве нагі – хрусь! – як запалкі зламаліся.

На крык прыбеглі дзяўчаткі. Выцягнулі. Сякерай разрэзалі валёнкі, а ногі ўжо апухлі страшна. Паклалі. Змена скончылася, прывалаклі ў барак, там і лячылі. У медсанчасць не аддалі, сказалі, самі выхадзім. Рабілі нейкія прымочкі, сцягвалі туга-туга ногі, падвязвалі іх дагары. Так я і ляжала, пакуль яны хадзілі лес валіць. Пайку сваю са мной дзялілі, мне ж не давалі! І зраслося! Маладая была…Потым зноў хадзіла на працу разам з усімі.

**Паводле партала «Туапсінскія весткі».**

*Заканчэнне – у наступным нумары.*



Фота kurotnews.ru

Горад Туапсэ, у якім жыве сёння ўраджэнка Смаргоні Часлава Ашукоўская.

**● КАЛЯНДАР**

31 СТУДЗЕНЯ

**1929.** Нарадзіўся **Анатоль Грыцкевіч**, беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар. Акадэмік Міжнароднай АН Еўразіі. Даследчык гісторыі Беларусі перыяду феадалізму.

1 ЛЮТАГА

**1863.** Выйшаў зварот Літоўскага правінцыяльнага камітэта на чале з К. Каліноўскім да насельніцтва Беларусі і Літвы з заклікам падняцца на ўзброеную барацьбу.

**1913.** Нарадзіўся **Сяргей Прытыцкі**, беларускі палітычны дзеяч. У 1954 – 1960 – першы сакратар Маладзечанскага абкама КПБ.



**1919.** Пачаліся рэгулярныя заняткі ў Віленскай беларускай гімназіі.

2 ЛЮТАГА

**1958.** У ЗША нарадзіўся **Данчык**, беларускі спявак і журналіст.



3 ЛЮТАГА

**1919.** На Усебеларускім з'ездзе саветаў была прынятая першая Канстытуцыя БССР.

4 ЛЮТАГА

**1808.** Нарадзіўся Вінцэнт **Дунін-Марцінкевіч**, беларускі празаік, паэт, драматург, тэатральны крытык. Памёр 29 снежня 1884, Люцынка, Мінскі павет, цяпер Валожынскі раён.

**1933.** У Вільні скончыўся суд над Галоўнай управай Таварыства беларускай школы. Абвінавачанне ў падрыхтоўцы «камуністычнай змовы» не пацверджана.

5 ЛЮТАГА

**1940.** Пачалася дэпартацыя некаторых катэгорый насельніцтва з Заходняй Беларусі ва ўнутраныя раёны СССР.

6 ЛЮТАГА

**1921.** Выйшаў дэкрэт, які надаў беларускай, яўрэйскай (ідыш), польскай і рускай мовам статус дзяржаўных у БССР.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Як у маладзечанца Мішу Жабінскага закахаўся адзін вайсковец

## Гісторыя мужчыны, які любіў апранацца ў жаночыя ўборы

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

**У сярэдзіне 1950-х на адным з карнавалаў на Гродзеншчыне многія заўважылі каралеву ў шыкоўным убранні. А аднаму афіцэру яна так спадабалася, што той пачаў аказваць навязлівыя знакі ўвагі.**



Фота з архіва нашчадкаў Міхаіла Жабінскага.

Міхаіл Жабінскі ў жаночых строях, пашытых самастойна.

Тады прыгажуня-каралева збегла з карнавалу. Спалохалася, бо яна, а дакладней ён быў мужчынам у жаночым убранні.

Гісторыю ўраджэнца Смаргоні і жыхара Маладзечна **Міхаіла Жабінскага** карэспандэнту расказала гродзенка **Марына**. Яна ж і перадала фотаархіў свайго стрыечнага дзеда журналісту з Гродна **Руслану Кулевічу**. А той, заўважыўшы сувязь з рэгіёнам, падзяліўся з намі.

Вядома, што Міхаіл Жабінскі нарадзіўся ў 1903 годзе ў Смаргоні. Быў восьмым дзіцем у сям'і. Усяго ж дзяцей у Жабінскіх было дзесяць. Бацька працаваў настаўнікам у смаргонскай школе. У дарослым жыцці многія яго дзеці таксама сталі педагогамі.

Галава сям'і памёр рана, у сорак гадоў. У 1914 годзе, з пачаткам Першай сусветнай, маці ўжо адна выехала з дзецьмі ў Расію, у Варонеж. Каб сям'і было крыху лягчэй, самую маленькую дзяўчынку часова аддалі ў інтэрнат. У 1916 годзе сям'я вярнулася ў Беларусь, у Маладзечна. Тут Міхаіл скончыў школу.

### Меў падзяку ад прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага

У 1930-я Міхаіл Жабінскі едзе ў Варшаву, працуе мастаком. Ці меў ён спецыяльную мастацкую адукацыю, сваякі не ведаюць. Але адпаведныя здольнасці ў Міхаіла дакладна былі.

Недзе ў 1937-1938 гадах, жывучы ў Варшаве, наш зямляк удзельнічаў у конкурсе макетаў замкаў. За яго макет прэзідэнт Польшчы **Ігнацы Масціцкі** ўручыў Міхаілу падзячнае пісьмо. Мастак захоўваў дакумент, з гонарам паказваў сваякам. Але да нашага часу папера не захавалася.

### Як маладзечанцы Жабінскія выратавалі рускую лётчыцу

У 1939 годзе Жабінскі вяртаецца ў Маладзечна. Тут прабыў усю Другую сусветную. Тут у канцы вайны разам з маці яны падабралі рускую лётчыцу. Выходжвалі яе, хавалі ў сваім доме.

**Пасля вайны тая лётчыца прыязджала ў Маладзечна, дзякавала і нават напісала пра сваё выратаванне ў мясцовую газету.**

Пасля вайны Міхаіл на нейкі час з'язджаў у Мінск, працаваў там мастаком. А бліжэй да пенсіі вярнуўся ў Маладзечна. Тут жыў да 1992 года, да сваёй смерці. Працаваў вартаўніком і па сумяшчальніцтве афармляльнікам у адным з гарадскіх садкоў.

### Чаму дзеці любілі маладзечанскага дзядулю

Па ўспамінах стрыечнай унучкі Марыны, у дзяцінстве яна вельмі чакала прыезду маладзечанскага дзядулі ў Шчучын, дзе жыла з бацькамі. Дзеці любілі Міхаіла. Той іграў на гітары, пёк смачныя торты і печыва, умеў прыгожа аздобіць стол. Часам уласныя кулінарныя вырабы ён адпраўляў па пошце сваёй сястры ў Шчучын.

Таксама наш герой не толькі іграў на гітары, але і складаў кароткія жартоўныя вершы, вышываў, умеў трапна пажартаваць, добра ляпіў з пластыліну. З дзяцінства Марына запомніла макет тройкі коней, злепленых з пластыліну на каркасе з дроту.

– Гэта быў вельмі таленавіты чалавек. Яму шмат было дадзена, – перакананая суразмоўца.

А яшчэ Міхаіл шыў унукам карнавальныя касцюмы. І не толькі ўнукам. З маладых гадоў мужчына меў незвычайнае захапленне: шыў сабе жаночыя ўборы і фатаграфаваўся ў іх.

**Прычым у звычайным жыцці ён апранаўся, як усе мужчыны. Эксклюзіўныя жаночыя ўборы былі выключна для карнавалаў і фотаздымкаў.**

Менавіта на адным з такіх карнавалаў Міхаіл і зачараваў афіцэра. Той прыняў Жабінскага за жанчыну, пачаў аказваць знакі ўвагі. У выніку Міхаіл мусіў збегчы з карнавалу ў лёгкай сукенцы і туфлях. Пабаяўся рэакцыі вайскоўца, калі б той рассакрэціў яго.

У сталым узросце Міхаіл Жабінскі жаніўся. Шлюбную сукенку для сваёй нявесты сшыў сам.

Але з жонкай не склалася. Дажываў Міхаіл пад наглядам апекуна. І цяпер невядома, дзе падзеліся яго творы з пластыліну, вялікі жаночы гардэроб і падзяка ад самога Ігнацыя Масціцкага.

### Працяг гісторыі. Як мы знайшлі ў Маладзечне сваякоў Міхаіла

Калі суразмоўца Марына распавядала пра вялікую сям'ю Жабінскіх, яна ўзгадала, што адна з сясцёр Міхаіла была замужам за балгарынам, які служыў святаром. Падчас Другой сусветнай святара-балгарына забілі. Загінула і яго жонка. Іх маленькага сына забрала да сябе маладзечанская цётка.

Тады я адчула, што падобную гісторыю чула пару год таму. Усё праясніла прозвішча святара **Стойчаў**, названае Марынай. Я прыгадала, што два гады таму пісала пра спартсмена і педагога Валянціна Стойчава. Тады гісторыю пра забітага святара і выратаванага хлопчыка мне расказала дачка Валянціна **Таццяна**.

Марына падзялілася, што вельмі шукала сваякоў Стойчавых, і каб пабачыцца, і каб пагутарыць пра сям'ю Жабінскіх. Днямі жанчына стэлефанавалася з **Таццянай Лісотай (Стойчавай)** па нумарах, што прапанавалі ёй у рэдакцыі. Сам Валянцін Стойчаў памёр у 90-гадовым узросце.

**А з яго дачкой Таццянай Марына дамовілася сустрэцца летам.**

Нам будзе пра што пагаварыць, перакананая Марына.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# «Мы – пакаленне 1980-х, якое прайшло шалёныя 1990-я»

## Развагі выпускніцы з нагоды 25-годдзя заканчэння школы

МАЛАДЗЕЧНА

**Не было б нашай сустрэчы, калі б 35 год таму, у 1985 годзе, нас усіх бацькі не прывялі ў першы клас сярэдняй школы №9 горада Маладзечна.**



Так цяпер выглядаюць выпускнікі, якія скончылі школу №9 у Маладзечне ў 1995 годзе.

Чатыры першыя класы. Чатыры першыя настаўніцы **Ларыса Анатольеўна Бароўская, Таццяна Іванаўна Перадня, Галіна Давыдаўна Шацкая, Валянціна Адамаўна Прыпутневіч** – людзі, якія сталі значнымі для нас і пакінулі след у кожным на ўсё дарослае жыццё.

### Не хадзілі ў садок, але ўмелі рабіць дамашнія справы

Мы выйшлі ў большасці з прыватнай, амаль вясковай забудовы, з прысядзібнымі надзеламі зямлі, з часовымі пабудовамі, у якіх жылі нашы бацькі, пакуль будавалі дамы, з вялікай гаспадаркай.

Многія з нас не хадзілі ў дзіцячы сад, затое выдатна спраўляліся з дамашнімі справамі. І ўвогуле, мы былі больш самастойнымі, чым цяперашнія першакласнікі. Розніца паміж братамі і сёстрамі ў нас магла быць шэсць-сем гадоў. І часцей за ўсё, нашы старэйшыя суседзі былі паміж сабой таксама аднакласнікамі.

### Мячык і ровар замест інтэрнэту і мабільніка

У нас было савецкае дзяцінства, а юнацтва прыпала на разбурэнне СССР. На нашых вачах змянялася эпоха. Гарбачоў абвясціў праграму шырокіх рэформаў пад лозунгам «паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны». Ён упершыню ўжыў слова «перабудова». Ці разумелі мы гэта? Канешне, не, таму што былі дзецьмі.

У нас не было інтэрнэту, мабільных тэлефонаў. У нас былі мячык, ровар, гульня «Казакі-разбойнікі» да заходу сонца. У нас былі сябры дзяцінства, якія прайшлі з намі розныя выпрабаванні. У нас былі аднакласнікі, якія рабілі будні ў школе незабыўнымі.

### Рок-гурты, джынсы, Юра Шатуноў

Хутка краіна, у якой мы пайшлі ў першы клас, перастане існаваць, а між тым... На тэлеэкранах з'явіліся тэлемасты паміж СССР і ЗША. А мы з захапленнем глядзелі кінастужку «Госця з будучыні». У нашым дзяцінстве адбылася найбуйнейшая тэхнагенная катастрофа – выбух на Чарнобыльскай АЭС, наступствы якой закрануць яшчэ не адно пакаленне.

**Пачатак 1980-х быў звязаны з унікальнай з'явай – афіцыйным прызнаннем існавання рок-музыкі. Мы пачулі гурты: «Аліса», «Акварыум», «Кіно», «ДДТ», «Пікнік». Культавымі сталі фільмы «Асса», «Іголка» з песнямі «Кіно» і Віктарам Цоем у галоўнай ролі.**

Першыя кааператывы сталі з'яўляцца ў краіне, першыя джынсы і копіі красовак «Адыдас». Голас Юры Шатунова загучаў з вокнаў дамоў, а там падцягнулася і замежная поп-культура.

**Улады перасталі глушыць радыёстанцыю «Голас Амерыкі», «Радыё Свабода». А ў маі 1988 года СССР пачаў выводзіць войскі з Афганістана.**

### Свет, у якім жылі нашы бацькі, знікаў

Мы стаялі ў чэргах. Па талонах стаў прадавацца цукар. А ў залежнасці ад рэгіёнаў талоны былі патрэбныя на мяса, кілбасу, масла і маргарын, хлеб, тытунь , яйкі, нават запалкі, мыла, соль, пральны парашок, крупы. Як жа цяжка прыйшлося нашым бацькам. Свет, у якім яны жылі, знікаў.

Пасля распаду СССР таварны дэфіцыт не спыніўся, а працягваўся да 1994 года. Паліцы ў крамах былі пустыя. Недзе там, на захадзе, пераставалі існаваць краіны, якія мы вывучалі на ўроках геаграфіі, малявалі ў контурных картах. 9 лістапада 1989 года пала Берлінская сцяна, пачаліся студэнцкія хваляванні ў Празе, некаторыя рэспублікі сталі выходзіць з Саюза.

У сваім развітальным выступленні па тэлебачанні Міхаіл Гарбачоў падвёў вынікі: «Працэс абнаўлення краіны і карэнных змен у сусветнай супольнасці апынуўся куды больш складаным, чым можна было меркаваць... Старая сістэма пала да таго, як паспела зарабіць новая».

А мы ў 1993-м скончылі дзявяты клас. Многія сышлі са школы ў дарослае, цяпер зусім незразумелае жыццё. Нехта застаўся вучыцца да адзінаццатага. Мінулі гады.

**Мы не бачыліся з некаторымі аднакласнікамі 27, 25 год. Прыйшоў час сустрэцца.**




Торт, замоўлены да юбілею выпуску.

Мы – пакаленне 1980-х, якое прайшло шалёныя 1990-я. Мы – тыя, хто нарадзіўся ў 20 стагоддзі і перайшоў у 21-е праз шэраг гістарычных падзей. Магчыма, таму для нас вельмі важна берагчы гісторыю жыцця, звязаную са школай. Мы рады сустрэцца з мінулым дзякуючы сваім аднакласнікам. Дзякуй табе, школа. Дзякуй вам, настаўнікі, што вы прайшлі з намі гэты шлях, момантамі супярэчлівы і складаны.

**Наталля ЖУК, Маладзечна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# Анхела

**У мяне цяпер такі складаны ўзрост (без некалькіх дзён 27, дзякуй вам вялікі, што спыталі), у якім цяжка ўзгадваецца дзяцінства. Не толькі таму, што яно было адносна даўно. Шчыра прызнаюся, крыху балюча яго ўзгадваць, нават калі ўлічыць, што дзіцем я была дзіўным і сяброў многа не мела. Настальгія – магутная сіла, светлая, але калючая.**

# «Ліхія» дзевяностыя з іспанскім смакам

**Калі мяне спыталі, якімі цацкамі і гульнямі захапляюцца іспанскія дзеці, мне адразу прыйшла ў галаву тая эпоха, калі праблем і хваляванняў было менш, і свабода (для горшага і для лепшага) існавала толькі ў прыдуманых сусветах маладога ўяўлення. З гэтага, значыць, і пачну – раскажу, як гуляла я.**



Дзеці ў Іспаніі любяць гуляць у футбол. Зрэшты, а дзе ж не любяць?..

Фота twitter.com/FCBmasia.

### Кнігі

Для самотнага дзіцяці, якое навучылася чытаць, калі яшчэ і трох гадоў не было, кнігі былі, бадай, забавай нумар адзін. Асабліва мне падабаліся дзіцячыя вершы паэткі Глорыі Фуэртэс (першая смерць, якую я памятаю, – гэта яе, у 1998 годзе). Крыху пазней, серыя пра Гары Потэра, якая па-іспанску была даступная нашмат раней, чым па-беларуску. Яшчэ я любіла чытаць услых малодшаму брату (у нас пяцігадовая розніца ва ўзросце). Бясконцую гісторыю Эндэ я чытала яму па начах, перад сном.

### Камп'ютарныя гульні

Забава нумар два. Бацька заўжды быў аматарам камп'ютараў і іншых тэхналогій (у яго першага ў сям'і з'явіўся нават смартфон), і адзін з самых ранніх успамінаў менавіта аб тым, як я сядзела ў яго на каленях і мы гулялі. Любілі мы класічныя графічныя прыгоды («Вестраў Малпаў», «Грым Фанданга», «Індыяна Джонс», «Дзень шчупальца»), Doom і серыю «Раскрадальніца грабніц» (тую, што пра Лару Крофт). Потым з'явіліся ў маім жыцці і іншыя гульні: пакемоны, Dragon Quest, Super Mario. Гэта быў супольны інтарэс у нас са стрыечнымі, а пазней – з родным братам. Мы ўсе, дарэчы, дагэтуль любім камп'ютарныя гульні. У маім выпадку – самыя мастацкія або з моцным наратывам. Але і пастраляць не адмоўлюся.

### Лялькі

Нейкія былі. Мне, праўда, больш падабаліся (і падабаюцца) плюшавыя жывёлкі, чым мякчэйшыя, тым лепей. Барбі, канешне, меліся, і я іх выкарыстоўвала дзеля таго, каб прыдумваць гісторыі і прыгоды. Playmobil таксама былі, дый некатрыя – шыкоўныя.

### Уяўленне і прыдуманыя гісторыі

Мяркую, ніхто не здзівіцца, калі даведаецца, што я вельмі любіла прыдумваць сама сабе і малодшаму брату гульні. Часам я нават пісала вершы і казкі, іншым разам – прызначала выклікі і мэты брацiку. Але, мабыць, найбольш весяліліся, калі гулялі з магнетычнай дошкай, дзе можна было маляваць сваіх герояў, экзатычныя пейзажы, лабірынты...

Вядома, не скажу, што я была зусім асацыяльнай. У школе раз-пораз гуляла і з іншымі дзецьмі. Папулярнай затое я ніколі не была, таму магу не ведаць усіх гульняў, якімі захаплялася маё пакаленне ў свой час. У мяне былі дзве ўлюбёныя:

### «Муха»

Брутальная гульня, якая мне абсалютна не пасуе па характары, але ўсё ж. У двух шэрагах стаялі дзеці, якія глядзелі адзін на аднаго. Так званая «муха», або няшчаснае дзіця, якое на тое патрапілася, павінна была прайсці між радамі. «Муху» трэба было біць (пажадана – нямоцна, але бывала па-рознаму) і крычаць пры гэтым «Муха!». А потым «муха» павінна была здагадацца, хто яе пабіў апошнім. Калі паспяхова – то магла заняць месца новай ахвяры ў радзе.

Часам былі асаблівыя, паводле правілаў, сітуацыі (правілы я слабавата памятаю), як «Мост палак», падчас якога ўсе махалі кулакамі механічна ўверх-уніз. Гучыць дурнавата, а ў той час было неверагодна весела, нягледзячы на тое, што я заўсёды стаяла недзе пасярэдзіне і фактычна нікога не «біла» (магла толькі далікатна дакранацца рукой). Біць людзей – не маё, такога таленту няма. Гульню праз нейкі час забаранілі.

### «Бычкі»

Так мы называлі свой школьны варыянт даганялак. Побач з нашай дзіцячай пляцоўкай быў дамок, дзе жыў дворнік школы, а яшчэ была вельмі прывабная для дзяцей брама, і прыступкі, і шмат яшчэ чаго. Мы там гулялі, і кожны такі элемент быў бяспечным месцам ад «быка» (ад таго дзіцяці, значыць, якое іншых даганяла, ці «вядучага»). Праблема была ў тым, што, па-першае, там дворнік жыў са сваёй сям'ёй. А па-другое, месца гэта было занадта блізкае да машын. Такую гульню таксама нам забаранілі (дакладней, забаранілі нам увогуле знаходзіцца побач з дамком дворніка).

Хлопцы, традыцыйна, таксама гулялі ў футбол (дзяўчат рэдка пускалі, дый мне не тое, каб было асабліва цікава), радзей – у баскетбол, ужо ўсе разам (або, яшчэ лепей, хлопчыкі супраць дзяўчынак). Некаторыя дзяўчынкі захапляліся скакалкай, гулялі ў класікі або ў выбівала (у класікі і я любіла, але выбівала ўспрымалася як алімпіяды, занадта сур'ёзна). Нашмат старэйшыя стрыечныя сёстры, з якімі ў нас больш за дзесяць гадоў розніцы, навучылі рабіць фігуркі з вяровачкі, але ў маім пакаленні мала хто яшчэ ўмеў.

У нашай школе часта дазвалялі гуляць у старыя гульні ў зале інфарматыкі, калі ў групе там не было заняткаў. Потым з'явіліся камп'ютары і ў звычайных аўдыторыях, яны працавалі на сістэме Linux і там былі адпаведныя гульні з пінгвінчыкам.

Было модна і калекцыяніраваць карткі (з пакемонамі, футбалістамі ці з чым заўгодна яшчэ), і круглыя фішкі, з якімі былі звязаныя розныя гульні. Натуральна, горкі, арэлі і іншыя такія прадметы існуюць і ў Іспаніі. Цяпер – з мацнейшымі рэгуляцыямі, бо Еўрасаюз вымагае. Ну, і іспанскія дзеці, як і дзятва ўсіх краін, уставалі рана, каб глядзець улюбёныя мульцікі (YouTube і Netflix, праўда, часткова адмянілі гэту традыцыю).

Наконт цяперашняй сітуацыі – вядома, дзеці маюць доступ да мабільных тэлефонаў, камп'ютараў і гульнявых кансоляў раней, чым калісьці. Яшчэ цацкі рэгулююцца Еўрасаюзам (як і горкі), каб яны былі цалкам бяспечныя. Памятаю, у мяне была лятучая фея, якая раз-пораз трапляла мне і брату ў вока падчас свайго «вольнага палёту». Такое, як кажуць, ужо не прадаецца у іспанскіх крамах. Цацкі з малымі часткамі строга абмежаваныя таксама, прадаюць са шматлікімі этыкеткамі пра рэкамендаваны ўзрост, дый тое міжволі.

Я спытала маму, якая дагэтуль працуе ў школе, дзе я вучылася. Сярод дзяцей апошнім часам сталі моднымі ваўчкі (юла). Гэта нават не дзіва – у мяне было дыябала (цацка для жангліравання). І нават прыемна бачыць, як тысячагадовыя забавы перыядычна вяртаюцца ў моду, нават у такі час, калі кожнае дзіця мае смартфон (у школе, што праўда, іх часта забіраюць).

Мяркую, гульні, якія я называла, будуць вельмі падобныя да беларускіх. Апроч «Мухі», натуральна. Гэта брутальнасць застаецца ў нас, побач з тымі ж карыдамі для дарослых.

А так, я заўжды захаплялася тым, як і дзеткі ва ўсім свеце, падобна, любяць тыя ж самыя цацкі ды забавы, ад старагрэчаскіх да самых маладых сённяшніх пакаленняў. Спадзяюся, што мой тэкст нагадаў вам дзяцінства... А дакладней – самыя светлыя, вясёлыя і прыемныя ўспаміны пра яго.




Анхела ЭСПІНОСА РУІС
г. Малага (Іспанія)
паэтка, доктарка філасофіі ў галіне літаратуры
angeespi@ucm.es







Фота Валянціна ТАРАНА.

Падчас мерапрыемства дзеці гулялі, даведваліся новае і займаліся творчасцю.

# Як для маладзечанскіх дзяцей зладзілі кітайскі Новы год

МАЛАДЗЕЧНА

**Жадаючых патрапіць на вечарыну было столькі, што давялося зрабіць адразу два мерапрыемствы ў адзін дзень, каб было камфортна ўсім ахвотным.**

Вечарыны для дзяцей «Кітайскі Новы год» зладзілі 25 студзеня ў адукацыйным цэнтры «Адкрытая прастора». Іх правяла педагог **Іна Сушко**. Менавіта 25 студзеня, у дзень кітайскага свята, апякунства года перайшло Беламу Металічнаму Пацуку.

Святочную атмасферу стварыў дэкор памяшкання ў кітайскім стылі. Ды і самі ўдзельнікі, бо арганізатары прасілі па магчымасці прыйсці ў чым-небудзь чырвоным.

### Як святкавалі

Справа ў тым, што па павер'ях кітайцаў менавіта чырвонае адпуджвае пачвару Нянь, імя якога значыць «год». Калі ад яго не абараніцца, пачвара можа забраць дабро, а часам выкрадае і людзей. Да таго ж, чырвоны колер прыцягвае ўдачу.

Спачатку дзеці даведаліся пра тое, як у Кітаі святкуюць Новы год, пра легенды і традыцыі. Удзельнікам прапанавалі на аркушах вывесці іерогліфы, якімі традыцыйна віншуюць на свята.

**Асобна на прыгожай паперы прысутныя гуашшу вывелі іерогліф, які перакладаецца як «шчасце».**

Дзяцей развесяліла, што чытаецца іерогліф, як «фу». Гук, які мы ўспрымаем як нешта непрыемнае, з кітайскай азначае «шчасце».

Удзельнікі змайстравалі з каляровай паперы кітайскія ліхтарыкі. Яны, па кітайскіх павер'ях, адганяюць усё кепскае.

Часцей за ўсё кітайцы на Новы год дораць грошы ў чырвоным канверце. Калі прыходзяць у госці, то дораць гаспадару два мандарыны. Калі сыходзяць, то забіраюць з сабой ужо іншыя два мандарыны. Справа ў тым, што з кітайскай «пара мандарын» гучыць гэтак ж, як слова «золата». Гэты абрад сімвалізуе пажаданне дабрабыту ў надыходзячым годзе. Для ўдзельнікаў было прыемнай нечаканасцю, калі пераможцы атрымалі па два мандарыны ў падарунак ад арганізатараў.

### Чаму менавіта кітайскі?

– Кітайская мова складаная, але разам з тым незвычайная і папулярная, – распавядае Сушко. – Таму многія цікавяцца і мовай, і культурай Кітая.

Сама педагог выбрала кітайскую мову як другую замежную падчас навучання ў лінгвістычным універсітэце. Палічыла, што менавіта кітайская мова перспектыўная.

– Вучыць кітайскую складана, – дзеліцца педагог. – Але калі займацца, надаваць заняткам увагу штодзень, не ленавацца, то ўсё магчыма. Нават запамінаць іерогліфы. Гэта цікавыя мова і культура.

Пра ўражанні ад свята распавяла маладзечанка Наталля:

– Старэйшы сын наведаў вечарыну. Ён вучань 2 класа гімназіі №6. Аднакласнікі наведваюць у школе гурток кітайскай мовы, таму для сына гэта не было ўпершыню. Спадабалася. Асабліва пісаць іерогліфы, гульня ў камандах. Шмат даведаўся з гісторыі гэтай краіны. Уражаннямі дзяліўся ўсе выхадныя! Вялікі дзякуй арганізатарам!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Фота by.tribuna.com.

# Уладзіміра Макоўскага пажыццёва дыскваліфікавалі, а ён дагэтуль працуе ў футболе

**Летась 13 кастрычніка Уладзімір Макоўскі прысутнічаў у якасці трэнера маладзечанскай дзявочай каманды. Матч праходзіў у Чысці паміж «ДЮСШ-4-Маладзечна» і ФК «Мінск».**

Супрацоўнік АБФФ **Юры Чыстаў** пацвердзіў у адказе на афіцыйны зварот «РГ», што спаборніцтвы прайшлі пад эгідай Беларускай федэрацыі футбола, а яны праводзяцца па праграме развіцця жаночага футбола УЕФА.

Чытачы ў сацыяльных сетках пад дадзеным матэрыялам таксама адзначалі, што Макоўскі не можа працаваць трэнерам. Уладзімір у тэлефоннай размове з карэспандэнтам сказаў:

**– Калі я трэнер, значыць, я трэнер і магу трэніраваць сваю каманду. А слухаць, што кажуць у інтэрнэце, не трэба, гэта ўсё лухта.**

Уладзімір Макоўскі пажыццёва дыскваліфікаваны і не мае права працаваць трэнерам на спаборніцтвах, якія праводзіць федэрацыя футбола.

### Гучная «Справа аб дамоўных матчах», дзе Макоўскі быў фігурантам

У жніўні 2016 года Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі апублікавала прэс-рэліз. У ім праваахоўнікі адзначылі факт правядзення дамоўнага матча паміж «Іслаччу» і «Дынама-Брэст» у Маладзечне.

Следчы камітэт пачаў крымінальную справу ў дачыненні да падазроных. Імі сталі прадстаўнік трэнерскага штаба, гульцы «Іслачы», а таксама пасярэднік і заказчыкі. Высветлілася, што прадстаўніком трэнерскага штаба быў **Уладзімір Макоўскі**. У той час экс-футбаліст мінскага і кіеўскага «Дынама» пачынаў трэнерскі шлях.

Дамоўны матч «Іслачы» і «Дынама» стаў адным з шэрагу гульняў у трох беларускіх чэмпіянатах рознага ўзроўню, на якія звярнулі ўвагу праваахоўныя органы. Так з'явілася «Справа аб дамоўных матчах».

У сакавіку 2017 года АБФФ апублікавала «Спіс-26» – імёны 26 удзельнікаў «Справы аб дамоўных матчах». Праз нейкі час колькасць чалавек зменшылася, у выніку да адказнасці прыцягнулі 15 чалавек.

У кастрычніку 2017 года ў Першамайскім судзе Мінска вынеслі прысуд па справе. Уладзіміра Макоўскага прыгаварылі па двух частках артыкула 253 Крымінальнага кодэкса Беларусі да двух год без накіравання ў выпраўленчую ўстанову, з пазбаўленнем права займаць пасады ў спорце на пяць год.

У снежні 2017-га фігуранты абскардзілі прысуд, але судовая калегія па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда пакінула іх без задавальнення.

### Федэрацыя футбола дыскваліфікавала Макоўскага і яшчэ 11 чалавек

**У лютым 2018 года Дысцыплінарны камітэт федэрацыі футбола пажыццёва дыскваліфікаваў Макоўскага разам з яшчэ 11 людзьмі, хто быў датычны да дамоўных гульняў. Рашэнне грунтавалася на пункце 5 артыкула 20 Дысцыплінарнага кодэкса:**

«Пажыццёвая дыскваліфікацыя заключаецца ў пажыццёвай забароне ўдзельнічаць у футбольных матчах, спаборніцтвах або прысутнічаць на футбольных матчах, спаборніцтвах. Пажыццёвая дыскваліфікацыя можа быць заменена на больш мяккае дысцыплінарнае пакаранне або адменена толькі па заканчэнні 10 гадоў з дня яго прымянення».

Кіраўнік прэс-службы Беларускай федэрацыі футбола **Аляксандр Алейнік** тлумачыў, што дыскваліфікаваны футбольны спецыяліст не мае права са сваёй камандай удзельнічаць у любых спаборніцтвах, якія праходзяць пад эгідай Беларускай федэрацыі футбола. Нават калі гэта каманда дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. Аднак на момант дыскваліфікацыі ў 2018 годзе Макоўскі працаваў інструктарам-метадыстам у маладзечанскай ДЮСШ-4, якая спецыялізуецца на футболе.

### Хадайніцтва аб адтэрміноўцы – федэрацыя адмовіла

«РГ» накіравала афіцыйны зварот у федэрацыю, каб удакладніць статус Макоўскага. Аляксандр Алейнік адказаў, што ў адпаведнасці з рашэннем Камітэта кантрольна-дысцыплінарнага і па этычных пытаннях АБФФ за ўдзел у арганізацыі дамоўных матчаў Макоўскі пажыццёва дыскваліфікаваны.

27 мая 2019 года ў адрас Камітэта кантрольна-дысцыплінарнага і па этычных пытаннях АБФФ было накіраванае хадайніцтва аб прымяненні ў дачыненні да Макоўскага адтэрміноўкі выканання дысцыплінарнага пакарання. На пасяджэнні, якое адбылося 13 чэрвеня, адмовілі ў адтэрміноўцы выканання дысцыплінарнага пакарання.

**Такім чынам, Макоўскі не можа ўдзельнічаць у якасці трэнера ў турнірах пад эгідай АБФФ.**


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
5. Сталіца Уэльса.
6. Метрычная музычная адзінка – кожная з роўных па працягласці доляў, на якія дзеліцца музычны твор па ліку метрычных націскаў у ім.
7. Адзінка вымярэння напружання электрычнага току.
8. Абавязковае для ўсіх правіла, устаноўленае вышэйшым органам дзяржаўнай улады, якое мае найвышэйшую юрыдычную сілу.
9. Унутраная апорная частка збудавання, канструкцыі, на якой трымаюцца астатнія часткі.
11. Назва гэтай лацінаамерыканскай краіны паходзіць ад назвы ракі. У сваю чаргу яе назва ў перакладзе з мовы мясцовых індзейцаў азначае «рака рознакаляровых птушак».
12. Зменшаны чарцёж зямной паверхні або яе часткі з пераважным улікам тых або іншых спецыяльных прыкмет.
13. Імя дачкі Янкі Маўра, якая выйшла замуж за сына Якуба Коласа.
15. Фінікійская дзяржава, палкаводцам якой быў Ганібал.
17. Ускраіна населенага пункта.
18. Слова (або злучэнне слоў), якое дакладна абазначае пэўнае паняцце ў навуцы, тэхніцы, мастацтве.
20. Праверка ведаў па вучэбным прадмеце.
22. Узнікненне плода.
23. Транспартны сродак, прызначаны для перавозкі пасажыраў і грузаў па рэйкавых дарогах.
24. Востраў, які з'яўляецца сусветным цэнтрам па вытворчасці ванілі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Прозвішча паэткі і дзеячкі, якая ў 1905 годзе ўдзельнічала ў жаночым з'ездзе ў Маскве як дэлегат ад беларускіх жанчын.
2. Тайнае пагадненне некалькіх асоб аб сумесных дзеяннях супроць кагосьці або чагосьці для дасягнення пэўных палітычных мэт.
3. Назву гэтай гары далі ў гонар брытанскага вучонага географа. Сам ён спярша быў супраць гэтай ідэі, але калегі змаглі пераканаць. Мясцовае насельніцтва называла гэту гару па-іншаму, што ў перакладзе азначае «Боская маці жыццёвай энергіі».
4. Кім быў па прафесіі чалавек, па прозвішчы якога назвалі гільяціну? Прычым сам гэты чалавек быў супраць смяротнага пакарання. Адзінай яго мэтай пры стварэнні ідэі механізма было аблегчыць пакуты прыгавораных.
8. Пісьмовая просьба, складзеная па ўстаноўленай форме.
9. Густы кіславаты напітак, які вырабляюць з каровінага малака шляхам спіртавога і малочнакіслага браджэння.
10. Распаленая куча ламачча, дроў.
14. Фізічна не развіты, слабага здароўя, хваравіты.
16. Пашкоджанне арганізма, выкліканае раненнем, ударам, апёкам.
18. Тое, што і памідор.
19. Невялікая прамысловая рыба сямейства селядцовых.
20. Развіццё, працэс павольнага, паступовага змянення ў прыродзе і грамадстве.
21. Частка шлема, якой прыкрываецца твар, каб засцерагчыся ад удараў.
23. Захапляючы, зачароўваючы сваім выглядам, прыцягваць да сябе.
25. Свяцільня з абажурам на высокай падстаўцы, якая ставіцца на падлогу.

## Адказы на крыжаванку з №4

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Люкс. 4. Язык. 6. Дыханне. 8. Ядро. 12. Дазор. 14. Сакрэт. 15. Рагу. 17. Дотык. 20. Лупіна. 21. Сагнуць. 23. Расол. 24. Слёзы. 26. Слон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Яблыня. 3. Сказ. 5. Локан. 7. Вішнева. 9. Ханой. 10. Дэфект. 11. Вінаград. 12. Дэфіцыт. 13. Льгота. 16. Ружанец. 18. Рабрына. 19. Плён. 20. Ляск. 22. Паскаль. 23. Руль. 25. Саліст.



## ● ГАРАСКОП НА 31 СТУДЗЕНЯ – 6 ЛЮТАГА

**АВЕН.** Перыяд будзе вельмі імклівы. З'яўяцца абставіны, якія запатрабуюць дадатковага напружання. Складана будзе абраць правільныя дзеянні. Вольны час лепш правесці без лішніх рухаў, лянуйцеся ўволю.

**ЦЯЛЕЦ.** Не спрабуйце нават рабіць штосьці важнае. Вам патрэбны адпачынак. Супакойцеся і аддайце час на тое, каб паразважаць пра цяперашні стан спраў. Магчыма, вам спатрэбіцца дапамога калісьці блізкага чалавека.

**БЛІЗНЯТЫ.** У пачатку перыяду ўзнікнуць складанасці, з-за якіх будзе не так проста дасягнуць запланаванае. Ад вас спатрэбіцца нямала высілкаў, каб разабрацца ў сітуацыі і далей дзейнічаць так, як хочацца. Адказных людзей чакае поспех.

**РАК.** Перыяд пачнецца з прыемнасці. Пасля выхадных будзе шмат напружанай працы дзеля дасягнення важных мэтаў. Энергія кахання будзе бруіць вакол вас, не губляйце шанец. Пры магчымасці перанясіце паездкі на іншы час.

**ЛЕЎ.** Выдатны час для рамантычнага падарожжа або спаткання. Надзвычай важным будзе вырашыць актуальныя фінансавыя пытанні. У справах варта мець на ўвазе варыянты для рознага цячэння спраў.

**ДЗЕВА.** Многа напружанай працы, вашай увагі патрабуюць шматлікія справы. Аднак выніку ад выканання задач пакуль што не ўбачыце. Набярыцеся цярпення, зерне ўзыходзіць не адразу.

**ШАЛІ.** Добры час, каб абмеркаваць з партнёрам пытанне планавання сям'і. У працы разлічвайце толькі на сябе. Калі паспадзяевацца на іншых, можна моцна расчаравацца. Важна пастарацца быць як мага больш фізічна актыўнымі – хаця б больш хадзіце пешшу.

**СКАРПІЁН.** Ідэальны час, каб праявіць сваю творчую энергію. Спатрэбіцца паказаць, наколькі выконваеце абяцанні, у тым ліку тыя, што далі самім сабе. Вашы мары і планы шматспадзеўныя, калі вы знойдзеце ў сабе сілы ўвасабляць іх у жыццё. Сачыце за здароўем.

**СТРАЛЕЦ.** Захочацца больш часу правесці сам-насам. Калі магчыма – дазвольце сабе гэта. Лепш пазбягайце шумных кампаній. Вам варта прыняць важныя рашэнні, для якіх патрэбная цішыня. У справах кахання старайцеся пазбягаць перамен.

**КАЗЯРОГ.** Паспрабуйце паставіць на паўзу тыя справы, якія не прыносяць патрэбнага задавальнення. Паразважайце, чаго менавіта вам не хапае і як гэтага дасягнуць. Важна назапасіць сілы.

**ВАДАЛЕЙ.** Перыяд важны для ўзмацнення сацыяльнага статусу. Будзьце як мага больш актыўныя, наведвайце мерапрыемствы, не шкадуйце часу на забавы. Яны могуць прынесці не толькі задавальненне, але і карысць.

**РЫБЫ.** Пастарайцеся не ўспрымаць усё, што будзе адбывацца вакол, празмерна драматычна. Справы будуць паляпшацца, хаця і не вельмі хутка. Пачынайце рухацца наперад. Не чакайце ініцыятывы ад партнёра, бярыце ўсё ў свае рукі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 5 | | 1 | | 2 | | 7 |
| | 4 | 8 | | | | | 3 | |
| | | 9 | | 7 | 5 | 8 | | |
| | | 1 | 6 | | | 9 | | |
| 4 | | 6 | 8 | | | | | |
| | | 7 | | 3 | 9 | | | |
| 6 | | 4 | 1 | | | | 5 | |
| | 5 | 3 | | 6 | | 7 | | |
| | 1 | 2 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY






## Самае высокае дрэва Беларусі расце на Астравеччыне

Фота ostrovets.by.

АСТРАВЕЦ

**На хутары Камарышкі расце самае высокае дрэва Беларусі.**

Ім стаў дуб. Вышыню дрэва вызначылі ў 34 метры.

Конкурс праходзіў пры падтрымцы пасольства Швецыі, а праводзіла яго кампанія «Хуксварна». Былі вызначаны тры намінацыі: «Самае высокае дрэва», «Самае тоўстае дрэва» і «Самае незвычайнае дрэва».

Самым незвычайным дрэвам прызнаны цардуб, што расце ў Лепельскім раёне. У намінацыі «Самае тоўстае дрэва» перамог Янаў ясень з ахопам больш за 8 метраў.

Паводле ostrovets.by.

## Чытайце праз тыдзень:

- Пра развіццё валейбола ў Маладзечне распавядае адзін з гульцоў і арганізатараў турніраў. Цікавыя факты і гісторыі вы пабачыце ўжо ў наступным нумары.

## «Рэгіянальная газета» – цёплыя навіны ў зімовы дзень



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 1 лютага, субота

**Вецер:** заходні, 6-8 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -37,3°С у 1956 годзе
Максімальная тэмпература +4,8°С у 1989 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,5 мм у 2010 годзе

Паводле meteoinfo.by.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якія магніцікі ў вас ёсць на халадзільніку і які з іх самы важны для вас?



**Анастасія Францава, гаспадыня, Астравец:**
– У нас магніцікаў каля 50. Гэта магніцікі з адпачынку: анёлачкі, навагоднія. А самыя важныя тыя, якія падораныя роднымі і блізкімі.



**Дзяніс Царзян, беспрацоўны, Маладзечна:**
– Магніцікі ёсць, усе яны з тых мясцін, дзе я быў. А важных – няма.



**Вольга Будзько, кантралёр, Маладзечна:**
– У мяне магніцікі года, мышкі і падкова з надпісам «Балгарыя». Лепшы магніцік – гэта падкоўка.



**Аляксандр Камар, пенсіянер, Маладзечна:**
– Адзін магніцік са сцягам Беларусі.



**Юлія Адамовіч, гаспадыня, Вілейка:**
– Магніцікі розныя, але самыя дарагія тыя, што са здымкамі дзяцей.



**Надзея Балыш, работнік чыгункі, Маладзечна:**
– Ёсць магніцікі з Піцера, Чарнаморска, Львова. Ёсць магніцік з малітвай «Ойча наш». Я думаю, што гэта і ёсць самы важны магніцік. Я не скажу, што моцна веруючы чалавек, але ўсё ж.



**Святлана Якубоўская, работніца, Вілейка:**
– Ніякіх, таму што шкодна прымацоўваць магніцікі да халадзільніка.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№5 (1292) 31.01.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 162. Падпісана ў друк у 9.00 30.01.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.